


КАСТРЫЧНІК

№ 13-14

1929

МЕНСК

# ЗЬМЕСТ

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!






# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА,
ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 13-14

КАСТРЫЧНІК

МЕНСК — 1929

# Няхай жыве дванаццаты Кастрычнік!

На мільённых масах будуецца ўлада саветаў. Мільённыя масы ўзмацняюць дыктатуру рабочае клясы. Мільённыя масы рухаюць уперад справу сацыялізму ў нашай краіне. Мільённыя масы імкнуцца да хуткага росту вытворчых сіл на падставе спаборніцтва. Мільённыя масы пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе авангарду—камуністычнае партыі—разгорнутым фронтам вядуць сацыялістычны наступ на капіталізм.

Кожны дзень мы прасоўваем уперад будаўніцтва такіх гігантаў у сусьветным маштабе, як Днепрабудаўніцтва, Сталінбудаўніцтва. Кожны дзень мы прыбаўляем кілёмэтры ў такім вялізарным будаўніцтве, як Туркестанска-Сыбірская чыгунка. Ня гледзячы на цяжкасьці, перашкоды, мы рухаем уперад справу электрыфікацыі нашае краіны і тым самым падводзім новы сацыялістычны грунт пад усю нашу гаспадарку.

Кастрычнік разьвязаў сілы мас, і масы ўсё глыбей уцягваюцца ў будаўніцтва, зьнішчаюць корані капіталізму. У гэтым удзеле мас залог перамогі нашага будаўніцтва над бюракратызмам, над клясавым ворагам, у гэтым залог перамогі цяжкасьцяй.

Але кожнае прасоўваньне ўперад можа быць замацавана падвышэньнем вытворчасьці працы рабочых і сялян. Ленін пісаў: „Вытворчасьць працы—гэта самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу... Капіталізм можа быць канчаткова пераможаны тым, што сацыялізм створыць новую надзвычайна больш высокую вытворчасьць працы“.

Ленін пакінуў у наказ, як задачу цяперашняга часу, культурную працу сярод сялянства. Рабочая кляса ўзмацніла сваё кіраўніцтва над працоўным сялянствам. Саюз рабочае клясы з працоўным сялянствам – гэты вышэйшы закон дыктатуры—будзе непарушным. Пад кіраўніцтвам рабочае клясы ў сялянстве пашыраецца культурная праца, і сялянства ўсё больш і больш уцягваецца ў культурнае будаўніцтва. Клясавы вораг імкнецца ўсяляк перашкодзіць нашаму будаўніцтву. Але пад кіраўніцтвам моцнае згуртаванае камуністычнае партыі рабочая кляса пераможа супраціўленьне ворага.

У разьвіцьці нашае гаспадаркі мы павінны дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны. І ўсё гэта павінна быць створана нашымі ўласнымі сіламі, пры падтрыманьні сусьветнага пралетарыяту. Капіталістычныя краіны разгортваліся альбо за лік калёній, якія яны разбуралі, альбо за лік буйных кантрыбуцый, якія яны атрымоўвалі ад пераможаных у крывавай вайне народаў, альбо за лік таго і другога. Наш пралетарскі Саюз Рэспублік знаходзіць крыніцы сацыялістычнага накапленьня толькі ва ўласнай працы рабочых і сялян.

Кожная новая фабрыка, кожная новая каапэрацыйная арганізацыя—арцель, калгас, камуна—гэта наша перамога, перамога працоўных, перамога Кастрычніка.

У цяжкай барацьбе дасталіся гэтыя перамогі. Але цяжкасьці гэтае барацьбы ня спынілі і ня спыняць жалезнае волі працоўных. Дарога, паказаная Кастрычнікам, яскравая: гэта дарога да сацыялізму пад сьцягам вытрыманай у барацьбе камуністычнай партыі, пад сьцягам саветаў.

Закладаючы новыя калектыўныя гаспадаркі, мы б'ём па старой бесприбытковай гаспадарцы, мы б'ём па кулаку, адбіраючы ў яго ўсялякую магчымасьць таўсьцець на бядняцка-батрацкай шыі. Праз індустрыялізацыю краіны і калектывізацыю сельскае гаспадаркі мы вядзём нашае сацыялістычнае будаўніцтва. Але выконваючы гэтую нашую чарговую задачу, мы ў той-жа час павінны яшчэ больш узмацніць наш наступ на нэпмана ў горадзе, на кулака ў вёсцы.

Унутраныя ворагі савецкае ўлады—кулакі, папы і былыя царскія пасобнікі—робяць усялякія спробы да таго, каб розным чынам паслабіць нашую працу. Яны пралазяць у саветы і каапэрацыю. Але бедната і батрацтва даюць арганізаваны адпор гэтым спробам кулакоў сарваць нашае будаўніцтва.

Надворныя нашыя ворагі ў шэрагу фашысцкіх краін ужо пасьпелі паарыштоўваць шмат камуністычных дзеячоў, думаючы гэтым спыніць пралетарскія маніфэстацыі за мяжою Савецкага Саюзу ў гонар гадавіны Кастрычніка. Ніякія аднак спробы ня здолеюць паслабіць згоджанасьць пралетараў усіх краін з першаю рэспублікаю працоўных, з савецкім авангардам сусьветнае рэвалюцыі. Асабліва ў дзень Кастрычніка ўся пралетарская сусьветная сям'я аб'яднаецца пад сьцягам Кастрычніка.

Для поўнай перамогі нам патрэбна культурная рэвалюцыя. Ніякіх сіл і сродкаў не павінны мы шкадаваць на тое, каб вывесьці нашу краіну з адсталасьці, руціны старога побыту, рэлігіі і забабонаў, якія паслабляюць нашыя дасягненьні. Трэба ўзмацніць у чым бы ні стала распаўсюджваньне 3-е пазыкі індустрыялізацыі сярод сялянства. Трэба даць савецкай уладзе досыць сродкаў для будаўніцтва новых фабрык і заводаў, магутных электрастанцый, якія дадуць вёсцы шмат новых машын і сельска-гаспадарчых прылад для палягчэньня сялянскае працы, для падвышэньня прыбытковасьці сельскае гаспадаркі. На пазыку індустрыялізацыі, на пазыку рэвалюцыі мы павінны ўсе падпісацца!

Усю працу савецкіх грамадзкіх арганізацый, усё наша будаўніцтва мы павінны праверыць і паправіць шляхам здаровае самакрытыкі.

Савецкая каапэрацыя—дзіця Кастрычніка. Яна ахапіла ўжо большасьць сялянскіх гаспадарак. Спажывецкая каапэрацыя ня толькі пасьпяхова цісьне на нэпмана і кулака, але ўжо ператвараецца з галоўнага ў адзіны раўчак для прасоўваньня ўсяе масы тавараў да спажыўца.

Аднак за посьпехамі каапэрацыі мы бачым і нашыя слабыя месцы. Недахваты ў працы, бюракратычныя скажэньні каапэрацыйнага апарату,

недапушчальная слабасьць культурнае працы пры спробах кулака і нэпмана раскласьці органы каапэрацыі,—усё гэта патрабуе няспыннае самакрытыкі пайшчыка.

Нам трэба ўзмацніць грамадзкі кантроль, павялічыць актыўнасьць пайшчыка, яшчэ больш цьвёрда ва ўсялякай справе абапірацца на беднату, замацоўваючы адзіны бядняцка-серадняцкі фронт супроць кулака.

Чырвоныя сьцягі Кастрычніка тыя-ж самыя, пад якімі загінулі 12 год таму назад нашыя браты на барыкадах.

Няхай увес сьвет убачыць, што вялікая сіла, якая скінула 12 год таму назад уладу цара і капіталу, узрасла ў многа раз, што яна непераможна, што ёй належыць сацыялістычная будучыня.

Няхай жыве Сусьветны Кастрычнік!

---

**Швэдаў**

# Рэарганізацыя сельска-гаспадарчай каапэрацыі і задачы арганізацыйнай працы

Паводле пастановы ЦК ЎсеКП(б) ад 27 чэрвеня г. г. аб арганізацыйнай структуры с.-г. каапэрацыі, Саветам народных камісараў БССР выданы закон аб рэарганізацыі структуры сельска-гаспадарчай каапэрацыі БССР, у адпаведнасьці з якім каранным чынам зьмяняюцца формы і мэтады працы нашай сыстэмы.

Асноўнае новае, што галоўным чынам павінна адбіцца ў працы сельска-гаспадарчай каапэрацыі пасьля яе рэарганізацыі, гэта тое, што ўсе віды і формы вытворчага каапэраваньня і мэтады працы вытворчых каапэратываў, павінны быць пабудованы такім чынам, каб яны забясьпечвалі хутчэйшы перарост першапачатковага вытворчага каапэратыву ў вышэйшую ступень вытворчага каапэраваньня—у калектыўную гаспадарку. Адгэтуль і ўся праца гэтага першапачатковага вытворчага каапэратыву, замест каапэраваньня тавараабароту паміж горадам і вёскай на базе ахопу забесьпячэньня сялянскіх гаспадарак сродкамі с.-г. вытворчасьці і збыту таварных лішкаў с.-г. вытворчасьці, павінна рашуча перайсьці да непасрэднага каапэраваньня самых працэсаў с.-г. вытворчасьці, з тым, каб, паступова ўнядраючыся ў гэтыя працэсы і пасільваючы элемэнты абагульваньня ў сельскай гаспадарцы, сельска-гаспадарчая каапэрацыя ўсіх яе відаў няўхільна падрыхтоўвала базу для масавай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак. Масавай нізавой вытворчай ячэйкай с.-г. каапэрацыі павінна зьявіцца першапачатковае с.-г. таварыства паселішчнага тыпу, з напрамкам працы па асноўнай (вядучай) галіне сельскай гаспадаркі для данага раёну, які-б вызначаўся тэрыторыяй, магчымай да землеўпарадкаваньня ў адзіным цэлым, на якой магчыма было-б пабудаваць буйную калектыўную гаспадарку па адзінаму арганізацыйна-гаспадарчаму пляну. Нельга зараз устанавіць абмежаваную колькасьць паасобных сялянскіх гаспадарак, з якіх трэба будзе арганізаваць гэтыя першапачатковыя вытворчыя каапэратывы, але-ж жыцьцёвыя факты арганізацыі калектываў на плошчы ў 2-4 і, нават, 6 тысяч га, з складам членаў да 400 гаспадарак, кажуць аб тым, што ў першапачатковыя вытворчыя таварыствы могуць аб'яднацца ня толькі адна ці дзьве вёскі, а нават і цэлыя сельсаветы, але-ж, улічваючы слабую жыцьцёвасьць існуючых дробных калгасаў, трэба па магчымасьці ўхіляцца

арганізацыі дробных таварыстваў, дапушчаючы іх, як выключэньне, толькі ў тых выпадках, калі па тых ці іншых умовах таго ці іншага паселішча нельга далучыць да суседняга і аб'яднаць у адно таварыства.

З 1 кастрычніка сыстэма с.-г. каапэрацыі ўжо павінна была практычна падыйсьці да рэарганізацыі, але-ж праца гэта амаль на цэлы месяц, па шэрагу прычын, спазьнілася. Цяпер перад усёй сыстэмай паўстае задача наверстаць упушчаны час і на працягу бліжэйшых месяцаў распачаць і скончыць рэарганізацыю з тым, каб да пачатку вясновай пасеўнай кампаніі ўжо мець закончаную сетку першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў, праз якую павінны быць праведзены ўсе тыя мерапрыемствы партыі і ўраду па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, якія-б забясьпечвалі хутчэйшы яе ўздым наогул і паляпшэньне добрабыту батрацкіх і бядняцка-сераднядкіх мас вёскі.

Як-жа практычна падыйсьці да гэтай рэарганізацыі?—Як ужо вядома, уся праца па перабудове сыстэмы павінна забясьпечыць захоўваньне поўнай бесьперабойнасьці ў тэй працы, якую зараз с.-г. каапэрацыя выконвае, і ўсе тыя дзяржаўныя заданьні, якія ўскладзены на с.-г. каапэрацыю ў галіне нарыхтовак збожжа, рознай сыравіны і г. д., павінны быць поўнасьцю выкананы. Ніякіх паслабленьняў быць не павінна і ўся рэарганізацыя павінна быць зроблена на ходу—гэта трэба памятаць кожнаму працаўніку каапэрацыйнага апарату.

Зараз мы маем каля 18 розных відаў с.-г. аб'яднаньняў, з якіх частка (рыбалоўныя, агнятрывалыя, тарпяныя) павінны адыйсьці да другіх сыстэм каапэрацыі, а астатнія рэарганізаваны ў вытворчыя аб'яднаньні вядучай галіны сельскай гаспадаркі. У першую чаргу павінны быць рэарганізаваны с.-г. крэдытныя таварыствы. Замест 325 сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў, вядучых разам з крэдытнымі апэрацыямі забесьпячальную і збытавую працу і кантрактацыю, павінна застацца па аднаму на кожны раён чыста крэдытнаму таварыству, якое, разам з функцыямі па крэдытаваньню сельскай гаспадаркі, будзе зьяўляцца рязьліковым асяродкам паміж горадам і вёскай, выконваючы працу па даручэньню грашовых і крэдытных установаў. Ад гэтых раённых крэдытных таварыстваў павінны быць перададзены спэцыяльным сыстэмам (раённым вытворча-збытавым аб'яднаньням) усе гаспадарча-апэрацыйныя функцыі, усе прадпрыемствы і рахункі па іх. Вылучэньне раённых крэдытных таварыстваў павінна сапраўджацца адначасовай арганізацыяй раённых вытворча-збытавых паляводчаскіх таварыстваў, якія бяруць на сябе ўсю тую гаспадарча-апэрацыйную працу, якую вяло крэдытнае таварыства. Гэта раённае таварыства абапіраецца на першапачатковую сетку існуючых у раёне прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў, як машынныя, насеннаводныя, ільнаводныя, пасялковыя, бульбяна-цёрачныя таварыствы, якія павінны быць рэарганізаваны (пераведзены на статут) у паселішчныя вытворчыя таварыствы паляводчаскага напрамку з спэцыяльнымі ўхіламі—бульбяным, зерневым, ільняным і г. д. Магчыма, што ў паасобных раёнах, дзе пераважную ролю ў сельскай гаспадарцы мае жывёлагадоўля, такія-ж прасьцейшыя таварыствы будзе больш мэтазгодным арганізоўваць у паселішчныя вытворчыя жывёлагадоўчыя таварыствы.

Глыбінныя сельска гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, пасьля перадачы крэдытных функцый раённым крэдытным таварыствам, павінны быть рэарганізаваны ў паселішчныя таварыствы вядучай галіны сельскай гаспадаркі, шляхам раздрабленьня іх на некалькі паселішчных вытворчых каапэратываў, і яны перастаюць існаваць як буйна-раённыя сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні. Уся іх дзейнасьць, як у галіне забесьпячэньня і збыту, гэтак і ў галіне кантрактацыі і іншых агрыкультурных мерапрыемстваў, часткова

пераходзіць да раённага вытворча-збытавога таварыства, а часткова, і нават у большай частцы, пераходзіць у круг працы паселішчнага таварыства.

Крэдытаваньне паасобных гаспадарак будзе праводзіць кожнае паселішчнае вытворчае аб'яднаньне, якое на падставе арганізацыйна-гаспадарчага пляну, складзенага пры ўдзеле і пад кіраўніцтвам раённага вытворча-збытавога таварыства, будзе атрымліваць патрэбныя крэдыты ў раённым крэдытным таварыстве. Як крэдытная, гэтак і забесьпячальная праца ў нізавым вытворчым таварыстве павінна быць пастаўлена такім чынам, каб яна ў найбольшай ступені спрыяла хутчэйшаму абагульваньню ўнутры вытворчага таварыства як сродкаў вытворчасьці, гэтак і самых працэсаў вытворчасьці.

Адгэтуль, з самага пачатку працы паселішчнага таварыства, павінны быць заложаны прынцыпы паступовага ўнядрэньня элемэнтаў калектывізму, як: аграмаджваньне пасеваў, працоўнай і прадукцыйнай жывёлы, пабудова сілосных ям ці вышак, пабудова калектыўных абор, сьвірнаў, мачыльных ям, машынных хлявоў і г. д. Бязумоўна, што ўсялякі водпуск с.-г. машын павінен прадугледжваць калектыўнае іх скарыстаньне з разьлікам поўнай іх нагрузкі пры вучоце адначасовага дасягненьня максымальнай эфэктыўнасьці ад іх прымяненьня. Гэта кажа за тое, што ўся ўвага павінна быць зьвернута на прасоўваньне ў вытворчыя паселішчныя аб'яднаньні больш складаных машын, якія-б палягчалі працу селяніна, давалі эфэкт у справе патаненьня с.-г. вытворчасьці і спрыялі абагульваньню працэсаў вытворчасьці.

Збытавая праца паселішчных таварystваў у галоўнай сваёй частцы будзе праводзіцца праз кантрактацыю, якая павінна параўнальна ў кароткі тэрмін ахапіць усе 100 проц. таварных лішкаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці і канчаткова выціснуць тыя выпадковыя закупкі на рынку, на якіх зараз базуецца ўся наша загатоўчая праца. Мы павінны будзем у недалёкім часе канчаткова адмовіцца ад гэтых закупак з тым, каб, пашырыўшы кантрактацыю на ўсе віды прадуктаў с.-г. вытворчасьці, нават ня ўжываць слова „загатоўка“, а толькі „кантрактацыя“.

Праводзячы кантрактацыю выключна групавым парадкам у паселішчных вытворчых таварыствах, дабіваючыся праз яе ўнядрэньня ў сялянскія гаспадаркі найлепшых спосабаў і мэтадаў вядзеньня сельскай гаспадаркі па апошніх дасягненьнях навукі і тэхнікі, забясьпечваючы вытворчыя таварыствы гатунковым насеньнем, штучным угнаеньнем і найлепшымі тэхнічнымі сродкамі вытворчасьці, трэба спадзявацца, што яна ў кароткі тэрмін зьявіцца магутнейшым фактарам да шпаркага перарасту прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў у калектыўныя гаспадаркі. Усялякае першапачатковае таварыства, якога-б спэцыяльнага напрамку яно ні было, павінна весьці сваю працу такім чынам, каб разьвівалася ня толькі асноўная (вядучая) галіна гаспадаркі, а і ўсе астатнія, не асноўныя, дапаможныя галіны, не дапушчаючы заняпаданьня, нават самых дробных, дапаможных у сельскай гаспадарцы галін, так як зьяўляючыся зародкам будучага калгасу, гэта вытворчае таварыства вядучай галіны, ня гледзячы на спэцыяльны ўхіл, усё-ж павінна зьяўляцца ў некаторым выглядзе таварыствам па супольнаму вядзеньню сельскай гаспадаркі.

Для дасягненьня гэтых мэт, побач з арганізацыяй паселішчных вытворчых таварыстваў асноўнай (вядучай) галіны, будуць арганізоўвацца спэцыяльныя вытворчыя таварыствы і па дапаможных (не асноўных) галінах сельскай гаспадаркі, як напрыклад: садова-гародныя, птушніцкія, мэліарацыйныя, пчалярныя і іншыя.

Гэтыя спэцыяльныя таварыствы, якія маюць сваёй мэтай арганізацыю і разьвіццё дапаможных галін сельскай гаспадаркі, раёнам сваёй дзейнасьц

могуць мець некалькі паселішчных таварыстваў і аб'яднаюць паасобных сялян, як членаў вытворчых таварыстваў вядучай галіны, гэтак і ня членаў (некаапэраванае насельніцтва), аб'яднаючыся ў сваю чаргу ў раённым маштабе спэцыяльным раённым вытворча-збытавым аб'яднаньнем не асноўнай галіны. Такі міжпаселішчны тып спэцыяльнага першапачатковага аб'яднаньня, аднак, не выключае магчымасьці арганізацыі самастойнага аб'яднаньня і ўнутрыпаселішчнага вытворчага таварыства вядучай галіны, калі гэта таварыства будзе досыць буйным—гэта па-першае, і, па-другое, калі аднолькавыя дапаможныя галіны гаспадаркі ўнутрыпаселішчнага таварыства будуць мець дастаткова масавы характар і ў інтарэсах найлепшага іх абслугоўваньня і арганізацыі патрабуюць наяўнасьці спэцыяльнага каапэратыву на пачатках добраахвотнага каапэраваньня ўнутры асноўнага таварыства, які-б узяў на сябе гэтыя функцыі ўсебаковага абслугоўваньня дапаможнай галіны сельскай гаспадаркі. Напрыклад, калі будзе арганізавана буйнае вытворчае паселішчнае таварыства як жывёлагадоўчае, у склад якога ўвайшло 2-3 вёскі з колькасьцю паасобных сялянскіх двароў у 300—400 і сярод гэтых 300—400 гаспадароў ёсьць у 50—60 проц. пчолы, дык ўнутры гэтага жывёлагадоўчага паселішчнага таварыства будзе цалком мэтазгоднай арганізацыя пчалярнага таварыства, якое-б занялося абслугоўваньнем пчалярства гэтых гаспадароў, павёўшы сваю працу ў напрамку абагульваньня гэтай дапаможнай галіны гаспадаркі, шляхам арганізацыі арцельнай пасекі, пабудовы амшаньніка, набыцьця пчалаводнага інвэнтару, рамачных вульляў, атрыманьня неабходных крэдытаў і г. д.

У задачу кожнага першапачатковага таварыства, як вядучай, гэтак і дапаможнай галіны сельскай гаспадаркі, з самога пачатку яго дзейнасьці павінен быць пакладзен напрамак няўхільнага, сталага ўзьдзейнічаньня на паступовае абагульваньне як сродкаў вытворчасьці, гэтак і самых працэсаў вытворчасьці.

Галоўнейшая праца ў гэтым напрамку павінна быць праароблена з боку раённых вытворча-збытавых аб'яднаньняў. Праводзячы ўсю працу па плянаваньню і арганізацыі вытворчых працэсаў у першапачатковым таварыстве па забесьпячэньню яго неабходнымі сродкамі вытворчасьці і збываючы прадукты с.-г. вытворчасьці, раённае вытворча-збытавое абяднаньне павінна ўвесь комплекс гэтых мерапрыемстваў разьлічваць і накіроўваць такім чынам, каб яны самі па сабе выклікалі неабходнасьць усё больш і больш шырокага разьвіцьця аграмаджваньня ўнутры вытворчага паселішчнага таварыства і ў канчатковым выніку няўхільна падрыхтоўвалі гэта таварыства да пераходу на вышэйшую форму вытворчага каапэраваньня—у калгас.

Вялікую дапамогу ў справе ўзьдзейнічаньня на абагульваньне вытворчых працэсаў сельскай гаспадаркі ўнутры паселішчнага вытворчага таварыства павінна адыграць складаньне спэцыяльных непадзельных капіталаў, ствараемых з штогодных узносаў членаў гэтых таварыстваў. Гэтыя непадзельныя капіталы, прызначаемыя выключна на арганізацыю мерапрыемстваў аграмаджанага карыстаньня, павінны складацца з цьвёрда ўстаноўленых узносаў ад каапэраваных аб'ектаў сельскай гаспадаркі тае галіны, па якой пабудован той ці іншы каапэратыў. У паляводчаскіх таварыствах галоўнейшым аб'ектам каапэраваньня зьяўляецца поле, таму і спэцыяльны ўзнос у непадзельны капітал гэтага таварыства павінен устанаўляцца альбо ад плошчы пасеву, альбо ад звароту кожнага паасобнага члена з сваім таварыствам па кантрактацыі, ці рэалізацыі праз таварыства прадуктаў паляводзства; у жывёлагадоўчых таварыствах—галоўны каапэруемы аб'ект жывёла, значыцца, і ўзнос павінен быць устаноўлен альбо ад пагалоўя стада, альбо таксама ад звароту кожнага члена з таварыствам па прадуктах жывёлагадоўлі і г. д.

Па ўсёй сыстэме першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў уводзіцца адзіны дыфэрэнцаваны пай, разьмер якога ўстанаўліваецца ў 5 руб. для батракоў, 10 руб. для беднякоў (вызваленых ад сельска-гаспадарчага падатку), 25 руб. для серадняцкіх гаспадарак (якія плацяць с.-г. падатак па шкале і з надбаўкамі) і 50 руб. для гаспадарак, якія абкладаюцца с.-г. падаткам у парадку індывідуальнага абкладаньня, пры чым для гэтай апошняй групы сялянскіх гаспадарак разьмер паю можа быць павялічан у 2 і 3 разы, у залежнасьці ад моцнасьці гаспадаркі, па індывідуальнаму падыходу ў кожным паасобным выпадку. Каапэраваньне гэтай групы сялянскіх гаспадарак, аднак, ні ў якім разе не дае ім права карыстацца актыўным правам унутры вытворчага таварыства. Разам з пазбаўленьнем права голасу гэтых гаспадарак пры выбарах у саветы і ў зямельных вобчаствах, яны таксама пазбаўляюцца права голасу і ўнутры каапэрацыйных арганізацый і ня маюць права ні абіраць кіруючых органаў унутры каапэратыву, ні быць абранымі ў гэтыя органы.

Паявы ўзнос кожная каапэруемая сялянская гаспадарка ўносіць толькі ў асноўны для данага раёну від паселішчнага вытворчага таварыства вядучай галіны сельскай гаспадаркі і гэты ўзнос дае ёй права на абслугоўваньне іншых дапаможных галін сельскай гаспадаркі тымі спэцыяльнымі неасноўнымі відамі вытворчых каапэратываў, якія ёсьць у гэтым раёне, на падставе спэцыяльнай умовы, якую заключае раённае вытворча-збытавое аб'яднаньне асноўнай для данага раёну галіны сельскай гаспадаркі з іншымі, неасноўнымі, вытворчымі аб'яднаньнямі. Прыкладна, калі ў раёне ёсьць сетка паселішчных вытворчых паляводчаскіх таварыстваў, дык сялянская гаспадарка ўносіць пай толькі ў гэткае паляводчаскае таварыства, а яе патрэбы ў галіне жывёлагадоўлі ці садоўніцтва павінны быць абслужаны раённым жывёлагадоўчым ці садова-гародным аб'яднаньнем на падставе дагавору гэтых аб'яднаньняў з раённым паляводчаскім аб'яднаньнем, без усялякага ўнясеньня паёў у гэтыя аб'яднаньні. Але-ж абслугоўваючыся ў сваіх патрэбах неасноўнымі спэцыяльнымі вытворчымі аб'яднаньнямі, зацікаўленая сялянская гаспадарка павінна ўдзельнічаць сваімі штогоднымі ўзносамі ў непадзельныя капіталы гэтых вытворчых аб'яднаньняў у парадку іх статуту і ўнесьці ўступны ўзнос. Маючы на ўвазе, што ў сучасны момант вялізарная колькасьць паасобных каапэраваных сялянскіх гаспадарак адначасова зьяўляецца пайнікамі некалькіх каапэрацыйных аб'яднаньняў с.-г. каапэрацыі, пры рэарганізацыі сыстэмы ўсе паявыя ўзносы гэтых гаспадарак павінны быць аб'яднаны і перададзены таму паселішчнаму вытворчаму таварыству, у якое ўласьнік гэтых паявых узносаў пажадае ўступіць.

Раённыя крэдытныя таварыствы і вытворча-збытавыя аб'яднаньні, як правіла, у складзе сваіх членаў павінны мець толькі арганізацыі, альбо так званых „юрыдычных асоб“, але-ж на некаторы час, да заканчэньня рэарганізацыі і ахопу вытворчым каапэраваньнем усіх сялянскіх гаспадарак, часова дапушчаецца ўваходжаньне ў склад членаў як крэдытных таварystваў, гэтак і вытворча-збытавых аб'яднаньняў і паасобных гаспадарак. Гэта неабходна дапушчаць па тых меркаваньнях, каб не пазбавіць магчымасьці, да часу арганізацыі ў тэй ці іншай вёсцы вытворчага каапэратыву, паасобныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі карыстацца крэдытам, машынамі, насеньнем, угнаеньнем і іншымі сродкамі вытворчасьці, але-ж адначасова з арганізацыяй першапачатковага вытворчага каапэратыву ў тым месцы, адкуль маюцца ў раённым аб'яднаньні паасобныя каапэраваныя гаспадаркі, яны перадаюцца гэтаму вытворчаму паселішчнаму таварыству разам з іх паявымі ўзносамі.

Вось, каротка, тыя асноўныя моманты парадку рэарганізацыі, да якой зараз прыступае с.-г. каапэрацыя. Бязумоўна, што гэта вельмі скла-

даная, вельмі адказная і вельмі цяжкая задача, якая асабліва яшчэ ўскладняецца тымі акалічнасьцямі, што яе трэба вырашыць на хаду, не ствараючы ніякіх перабояў у выкананьні плянаў працы і дзяржаўных заданьняў, але-ж яна павінна быць выканана з гонарам і ў самы карацейшы тэрмін, каб да пачатку вясновай пасеўнай кампаніі ў асноўным яе скончыць. Ад усяго каапэрацыйнага апарату і ў першую чаргу ад каапэрацыйнага інструктажу і арганізацыйных працаўнікоў патрабуецца асаблівая ўважлівасьць, асаблівая падрыхтаванасьць і прадуманасьць у правядзеньні гэтай рэарганізацыі, каб паасобнымі памылкамі, непрадуманымі мерапрыемствамі не сарваць гэтай працы і не адпіхнуць каапэраванага насельніцтва ад с.-г. каапэрацыі. Да пачатку правядзеньня практычнай рэарганізацыі трэба разгарнуць шырачэйшую растлумачальную працу сярод каапэраванага і не каапэраванага насельніцтва, прыцягнуўшы для гэтага ўсю вясковую грамадзкасьць, каапэрацыйны актыў і групы беднаты. Толькі пры гэткіх умовах, калі ўся савецкая грамадзкасьць, калі ўсе партыйныя і савецкія ўстановы на месцах прымуць самы актыўны ўдзел у правядзеньні як падрыхтоўчай працы, гэтак і практычнай працы па самай рэарганізацыі, магчыма будзе пасьпяхова правесьці яе, не паслабіўшы той бягучай працы, якую зараз выконвае сыстэма. Папярэдняя падрыхтоўча-растлумачальная праца павінна быць разгорнута зараз-жа. Пры практычным правядзеньні рэарганізацыі трэба ня толькі захаваць усіх пайнікаў, каапэраваных у сучасны момант, а яшчэ больш разгарнуць працу па ўцягненьню ў вытворчыя таварыствы новых кадраў пайнікаў з ліку батрацтва, беднаты і серадняцтва.

Сярэдні процант каапэраваньня сялянскіх гаспадарак павінен быць даведзены як мінімум да 70 проц., ня ўлічваючы паўторнага (дубліраванага) каапэраваньня, пры чым на працягу 1929-30 г. ў сельска-гаспадарчую каапэрацыю павінна быць уцягнута ўся бедната і значная колькасьць батрацтва. Тая астача фондаў на каапэраваньне беднаты, якая на сёньняшні дзень яшчэ не скарыстана, павінна быць скарыстана на каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак у вытворчыя таварыствы. Праз недалёкі час, пасьля складаньня гадавых справаздач, фонды каапэраваньня папоўняцца яшчэ значнымі сродкамі за лік адлічэньняў 15 проц. ад прыбыткаў сыстэмы, і ўсе гэтыя фонды павінны быть накіраваны на стварэньне бядняцкага каапэраванага ядра, наўкола якога будуць ствараца паселішчныя вытворчыя каапэратывы. Адначасова з гэтым трэба праводзіць неаслабную працу па пасіленьню с.-г. каапэрацыі грашовымі сродкамі, за лік прыцягненьня ў каапэрацыю сродкаў насельніцтва, у выглядзе паёў, спэцыяльных узносаў, мэтавых і звычайных укладаў, ліквідацыі пратэрміновак па пазыках таварнаму крэдытаваньню, кантрактацыі і іншых грашовых і натуральных разрахунках. Уся гэта праца павінна праводзіцца пад знакам яшчэ большага захаваньня пралетарскай клясавай лініі і больш рашучага наступу на кулацкія элемэнты вёскі. Бязумоўна, што кулацкая частка вёскі, якая ў выніку рэарганізацыі сыстэмы с.-г. каапэрацыі, будзе бачыць рашучы і сакрушальны ўдар па эксплёатацыі, даваўшай ёй магчымасьць вякамі жыць за кошт бедняка і серадняка, якая будзе бачыць свой канец перад будучаю ўсьлед за рэарганізацыяй пагалоўнай калектывізацыяй сялянскіх гаспадарак, яна будзе прыймаць усе меры і спосабы, каб сарваць, каб перашкодзіць гэтай рэарганізацыі.

Трэба чакаць, што практычнае правядзеньне рэарганізацыі сыстэмы с.-г. каапэрацыі спаткае асабліва жорсткае і заядлае супраціўленьне з боку кулака, які, напэўне, ужо і зараз рыхтуецца даць жорсткую бойку мерапрыемствам партыі і ўраду па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, так як ён павінен адчуваць, што рост вытворчага каапэраваньня, рост калектывізацыі раз і на заўсёды пазбаўляе яго магчымасьці трымаць у кабале батрацкія і серадняцкія масы вёскі, а разам з тым і прадвяшчае яго

канчатковае заняпаданьне. Улічваючы гэта, трэба як мага шырэй разгарнуць працу па арганізацыі батрацтва і беднаты і яшчэ больш замацаваць блёк беднаты з серадняцтвам для сумеснага арганізаванага наступу на кулацтва. Вось на гэтым, галоўным чынам, павінна быць завострана ўвага ўсіх практычных працаўнікоў сыстэмы с.-г. каапэрацыі і ўсяе савецкае грамадзкасьці, пры правядзеньні падрыхтоўчай працы па рэарганізацыі сыстэмы.

Падыходзячы практычна да рэарганізацыі, побач з падрыхтоўкай да яе шырачэйшых колаў каапэраванага і некаапэраванага насельніцтва і стварэньнем неабходнай грамадзкай думкі наўкола рэарганізацыі, трэба таксама сваячасова падрыхтаваць і ўсе тыя каапэрацыйныя аб'яднаньні, якія падлягаюць рэарганізацыі. У прыватнасьці гэта падрыхтоўка павінна выразіцца ў тым, каб сваячасова былі ачышчаны балянсы рэарганізуемых таварыстваў ад усялякіх няліквідных актываў, як-то: страты мінулых гадоў, няпэўныя даўгі, няліквідная маемасьць і г. д. Адначасова павінен быць праведзены дакладны вучот пайніка і паявых капіталаў. Разьмеркаваньне паміж паасобнымі каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі капіталаў будзе вытварацца на падставе спэцыяльнай інструкцыі, якая будзе ў бліжэйшы час зацьверджана ўрадам, але-ж да выданьня гэтай інструкцыі патрэбна ўжо зараз падрыхтаваць гэта разьмеркаваньне, выходзячы з аб'ёму ўдзельнай вагі паасобных галін дзейнасьці сыстэмы як за мінулы пэрыод, гэтак і ў адпаведнасьці з тым аб'ёмам працы, які павінен быць пасьля рэарганізацыі.

На падставе матар'ялаў аб эканамічных асаблівасьцях паасобных раёнаў, выходзячы з гістарычных умоў разьвіцьця сел. гасп. гэтых раёнаў і далейшых пэрспэктыў, сумесна з мясцовымі зямельнымі і плянуючымі органамі, трэба дакладна распрацаваць сел. гасп. раёнаваньне з дакладным вызначэньнем вядучай галіны сел. гасп., як у раёне ў цэлым, гэтак і паасобных яго частках, каб беспамылкова вызначыць месца і напрамак дзейнасьці кожнага першапачатковага асноўнага вытворчага таварыства. Неабходна, на падставе гэтых матар'ялаў і поўнай дагаворанасьці ўсіх каапэрацыйных сыстэм, скласьці дэталёвы плян рэарганізацыі сыстэмы, прадугледжваючы поўную ўзгодненасьць дзейнічаньня ўсіх каапэрацыйных сыстэм. Ніякіх спрэчак і недарэчнасьцяў за від і месца арганізацыі паселішчнага таварыства вядучай галіны гаспадаркі не павінна быць паміж паасобнымі відамі каапэрацыйных арганізацый, а ўся праца па рэарганізацыі павінна праходзіць пад знакам захаваньня поўнага адзінства дзейнічаньня ўсяе сыстэмы.

Ставячы канчатковай мэтай масавую калектывізацыю сялянскіх гаспадарак, рэарганізацыя існуючай сыстэмы с.-г. каапэрацыі і пабудова першапачатковага вытворчага зьвенчаку яе—паселішчнага вытворчага таварыства вядучай галіны, павінна быць разьлічана на шпаркі перарост гэтага таварыства ў буйную калектыўную гаспадарку, а таму і ўвесь плян працы гэтага таварыства і ўвесь комплекс мерапрыемстваў па ўзьдзейнічаньню на вытворчыя працэсы гэтага таварыства павінен з самага пачатку набыць няўхільны напрамак на ажыцьцяўленьне гэтых канчатковых мэт.

Той аб'ём працы сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі, які разьлічаны кантрольнымі лічбамі на 1929-30 г., бязумоўна, павінен быць цалком і поўнасьцю выкананы. Ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, якія паўстаюць на шляху выкананьня пляну сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, тая вялізарная актыўнасьць батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да арганізацыі новых формаў гаспадарчага і культурнага жыцьця, якую мы наглядаем сёньня, зьяўляецца пэўным паказчыкам таго, што асноўныя масы вёскі за генэральную лінію партыі, за калектывізацыю і вытворчае каапэраваньне, за сацыялістычную рэканструкцыю,—а гэта самае галоўнае.

---

І. Гармізэ

# Забесьпячэньне харчамі гарадоў і спажыв. каапэрацыя

1928-29 год, як першы год пяцігодкі, характарызуецца вялікім ростам і рэканструкцыйным пад'ёмам усяе народнае гаспадаркі Саюзу, які праходзіў ва ўмовах шпаркага наступу сацыялістычных элемэнтаў на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Пры вялізарным пад'ёме клясавае актыўнасьці пралетарскіх і бядняцкіх мас, аграмаджаны сэктар народнае гаспадаркі, ня гледзячы на супраціўленьне прыватных капіталістычных і кулацкіх элемэнтаў, пасьпяхова разьвіваўся ў прагрэсыўных тэмпах у параўнаньні з мінулымі гадамі і разам з тым з перавышэньнем запраэктыровак пяцігадовага пляну для першага свайго гадавога адрэзку. Гэта зусім добра сцьвярджаецца папярэднімі падрахункамі розьвітку народнае гаспадаркі паводле вестак кантрольных лічбаў Дзяржпляну БССР.

Аднак на фоне інтэнсыўнага розьвітку працэсаў сацыяльна-эканамічнае і тэхнічнае рэканструкцыі народнае гаспадаркі БССР, неадпаведнасьць спажывецкага фонду краіны да вырасшага попыту насельніцтва, як вынік (неадпаведнасьць) на данай стадыі народна-гаспадарчага розьвітку з характару і маштабу капітальных укладаньняў, дала цэлы шэраг цяжкасьцяў у сфэры разьмеркаваньня. Асабліва гэтыя цяжкасьці выразны былі на харчовым фронце ў выніку ня толькі спэцыфічных умоў 1928-29 г. (недарод), але і фактараў больш працяжнага парадку, як адсталасьць сельска-гаспадарчае вытворчасьці ад патрэб усяе народнае гаспадаркі. Для Беларусі, як спажывецкай рэспублікі, ня толькі па лініі прамтавараў, але і па лініі важнейшых сельска-гаспадарчых прадуктаў харчаваньня гэтыя цяжкасьці ў значнай ступені ўзраслі.

У такіх умовах перад спажыўкаапэрацыяй у 1928-29 годзе стаяла асноўная задача, каб перамагчы ўсе гэтыя абвостраныя цяжкасьці. Задача спажыўкаапэрацыі была ня толькі ў лепшай арганізацыі саміх функцый па забесьпячэньню і разьмеркаваньню, але і па вышуку, у якасьці асноўнае нарыхтоўчае сыстэмы, дадатковых рэсурсаў для больш поўнага здавальненьня спажывецкіх патрэб працоўнага насельніцтва. У сыстэме перамогі гэтае напружанасьці стаяла актуальная задача ажыцьцяўленьня клясавага прынцыпу ў разьмеркаваньні тавараў, забясьпечваючы ў першую чаргу патрэбы прамысловага пралетарыяту ў горадзе і бядняцка-серадняцкае масы на вёсцы.

У гэтым артыкуле мы думаем спыніцца выключна на задачах рабоча-гарадзкога сэктару спажывецкае каапэрацыі БССР у галіне харчовага забесьпячэньня рабочых, бо гэта задача, бадай, найбольш вострая і найбольш актуальная ў справе ахопу тае часткі бюджэту рабочага насельніцтва, якая цяпер яшчэ ня досыць ахоплена каапэрацыяй і ў частцы якое рабочы прымушаны ісьці на неарганізаваны рынак. Мы лічым неабходным вылучыць менавіта гэтую частку каапэрацыйнае работы яшчэ і таму, што ва ўмовах харчовых цяжкасьцяй самадзейнасьць, ініцыятыва і манэўраздольнасьць каапэрацыйнага апарату не абмяжоўваецца выключна сфэраю правільнае арганізацыі сваіх разьмеркавальных функцый. Яе роля, як асноўнае нарыхтоўчае арганізацыі, яшчэ вялікая ў вышуку дадатковых харчовых рэсурсаў шляхам найбольш поўнага ахопу таварнае прадукцыі вясковае гаспадаркі.

Арганізацыя харчовага забесьпячэньня гарадзкога насельніцтва ляжыць у такіх роўніцах: а) максымальнае павялічэньне аб'ёму таварнае масы, што павінна прайсьці праз каапэрацыю; б) забесьпячэньне ва ўмовах ажыцьцяўленьня клясавага разьмеркаваньня харчоў у першую чаргу прамысловым рабочым; в) максымальная арганізацыя матар'яльнага апарату разьмеркаваньня і набліжэньне яго да рабочага насельніцтва; г) правільнае манэўраваньне харчовымі рэсурсамі, што павінна знайсьці сваё практычнае адлюстраваньне ў рэзэрваваньні вядомых фондаў для бесьперапыннага і роўнамернага забесьпячэньня рабочага насельніцтва ў часы найбольш слабага паступленьня, па сэзонных умовах, дадзенага прадукту на рынак.

У сьвятле гэтых асноўных задач ахарактарызуем праробленую каапэрацыяй работу, яе пэрспэктывы ў галіне харчовага забесьпячэньня працоўнага насельніцтва.

За апошнія гады рабочая каапэрацыя мае не абыякія дасягненьні ў галіне абслугоўваньня спажывецкіх патрэб рабочага насельніцтва. Звароты рабочае каапэрацыі разьвіліся шмат шпарчэй у параўнаньні з ростам пакупніцкіх фондаў гарадзкога насельніцтва.

Дамо табліцу, што пакажа тэмп росту зваротаў рабочае каапэрацыі (па 12 гарадох) у параўнаньні з пакупніцкімі фондамі і ступеньню абслугоўваньня каапэрацыяй спажывецкага бюджэту рабочага насельніцтва.

(Дынаміка ў %% да папярэдняга году)

| | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. (к. п.) |
|---|---|---|---|
| | У процантах | | |
| Увесь пакупніцкі фонд неземляроб. насельніц. | +9,2 | +12,1 | +13,7 |
| Звароты Ц. Р. К. (уключаючы грам. харч.) | +32,1 | +39,7 | +38,7 |
| У тым ліку: | | | |
| Пакупніцкі фонд на с.-г. тавары | +13,1 | +18,3 | +9,7 |
| Звароты ЦРК па с.-г. таварах (без грамадзкага харчаваньня) | +29,5 | +54,5 | +38,8 |
| Звароты ЦРК па с.-г. таварах плюс грамадзкае харчаваньне | +30,2 | +56,6 | +41,0 |
| Пакупніцкі фонд на прамтавары | +5,5 | +5,6 | +18,4 |
| Звароты ЦРК па прамтаварах | +33,2 | +30,0 | +37,0 |
| Процант ахопу усяго пакупніцкага фонду | 39,2 | 48,0 | 58,9 |
| У тым ліку: | | | |
| %% ахопу пакуп. фондаў на с.-г. тавары | 27,0 | 33,3 | 43,4 |
| %% ахопу пакуп. фондаў на прамтавары | 54,9 | 65,0 | 75,0 |

Мы бачым, што звароты ЦРК з году ў год выпераджаюць рост платаздольнасьці попыту гарадзкога насельніцтва, у адпаведнасьці з чым ахоп пакупніцкага фонду падрос з 32,8% у 1926-27 годзе да 48% у 1928-29 г. з запраэктоўкай ахопу ў 1929-30 г. у 58,9%. Важна адзначыць прагрэсыўны рост ахопу каапэрацыяй спажывецкага попыту. Калі ў 1927-28 годзе супроць 1926-27 г. павялічэньне попыту складала 6,4%, дык у 1928-29 годзе мы маем плюс 8,8%, а ў 1929-30 годзе плюс 10,9%.

У агульным росьце звароту характэрнымі зьяўляюцца больш падвышаныя тэмпы прыросту зваротаў з сельска-гаспадарчымі прадуктамі. Канкрэтызуючы звароты рабочае каапэрацыі з сельгаспрадуктамі, дамо весткі па паасобных таварах:

| | У мільёнах руб. | | | | У %% до леташн. году | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. |
| Мука і крупы . . | 6,9 | 6,7 | 6,9 | 4,2 | 96,0 | 103,0 | 60,8 |
| Хлеб . . . . . . | 3,0 | 5,2 | 7,0 | 10,5 | 173,3 | 134,6 | 150,0 |
| Мясныя прадукты | 1,6 | 3,6 | 7,5 | 12,0 | 225,0 | 208,0 | 160,0 |
| Масла кароўе . . | 1,3 | 1,4 | 2,3 | 4,0 | 107,0 | 164,0 | 173,0 |
| Малако і малочн. прадукты . . . | 0,05 | 0,5 | 1,6 | 2,3 | 1000,0 | 320,0 | 148,0 |
| Яйкі . . . . . . | — | 0,3 | 0,6 | 0,8 | — | 200 | 133,0 |
| Гароднiна і зелянiна . . . . . | — | 0,3 | 0,1 | 1,5 | — | 366,0 | 136,0 |
| Садовiна . . . . | — | 0,5 | 1,2 | 1,6 | — | 221,0 | 133,0 |
| Рыба сьвежая . . | — | — | 0,5 | 1,4 | — | — | 280,0 |
| Дровы . . . . . . | 0,9 | 1,2 | 1,4 | 2,0 | 133,0 | 117,0 | 143,0 |

З гэтае табліцы відно, што рабочая каапэрацыя ўзмацняе сваю работу з найбольш важнымі асноўнымі прадуктамі, што скора псуюцца. Значна вырастаюць звароты з цэлым шэрагам прадуктаў, што яшчэ зусім нядаўна адсутнічалі ў асартымэнце рабочае каапэрацыі, як яйкі, гароднiна, рыба сьвежая і інш.

Аднак, па праўдзе кажучы, трэба прызнацца, што задачы рабочае каапэрацыі ў абслугоўваньні насельніцтва сельгаспрадуктамі далёка невыстарчальны. Каапэрацыя яшчэ далёка ня поўна ахапіла спажывецкую частку бюджэту рабочага насельніцтва ў частцы сельгаспрадуктаў. Супастаўляючы ўдзельную вагу сельска-гаспадарчых прадуктаў у асартымэнце рабочае каапэрацыі з весткамі пра ўдзельную вагу з гэтае-ж групы тавараў у спажывецкай частцы рабочага насельніцтва, мы маем такія адхільнікі:

| Гады | %% удзельн. вагі сельгаспрадуктаў у зваротах Ц. Р. К. | %% удзельн. вагі с.-г. прадуктаў у рабочым бюджэце |
|---|---|---|
| 1926-27 г. . . . . . . . . . . . . . | 36,9 | 49,5 |
| 1927-28 г. . . . . . . . . . . . . . | 36,5 | 51,3 |
| 1928-29 г. . . . . . . . . . . . . . | 40,9 | 54,1 |
| 1929-30 г. . . . . . . . . . . . . . | 41,5 | 52,2 |

Разьбежка паміж абслугоўваньнем каапэрацыяй сельгаспрадуктамі сапраўдным месцам у спажывецкім бюджэце рабочага насельніцтва, з аднаго боку, і з кан'юнктурай, што складаецца на харчовым рынку, з другога, высоўвае перад рабочаю каапэрацыяй далейшае разьвіцьцё работы з сельгаспрадуктамі, як адну з актуальнейшых задач у галіне далейшага падвышэньня матар'яльнага ўзроўню жыцьця рабочае клясы.

Але ў гэтай надзвычайна вялікай і адказнай задачы важна ня толькі колькаснае пашырэньне, але і якасная арганізацыя харчовага забесьпячэньня. Для большай відавочнасьці спынімся на паасобных сельска-гаспадарчых рынках.

Вызначанае ў другой палове 1927-28 г. напружанае становішча на хлебным рынку цалком перайшло ў 1928-29 г., і першае паўгодзьдзе яго характарызавалася перабоямі ў забесьпячэньні хлебам працоўнага насельніцтва. Прарobленыя мерапрыемствы, каб сабраць хлебнае забесьпячэньне

ў руках каапэрацыі, значны розьвітак яе сеткі хлебнага гандлю і нармалізацыя забесьпячэньня (заборныя кніжкі) значна ўспакоілі кан'юнктуру гарадзкога хлебнага рынку і абумовілі істотную эканомію ў выдаткаваньні хлеба. Калі сярэдня-месячны выдатак мукі да хлебных картак (да красавіка 1929 г.) складаў 417 тысяч пудоў, дык з пераходам на нармаваны водпуск, сярэдні выдатак хлеба скараціўся да 307 тыс. пудоў, ці на 26,3%.

Больш спрыяльнае для спажывецкае паласы геаграфічнае разьмяшчэньне ўраджаю ва ўсім Саюзе і высокі ўраджай у самой БССР, што значна павялічвае ўнутраныя хлебныя рэсурсы рэспублікі, дазваляюць спадзявацца на больш нармальнае забесьпячэньне хлебам у 1929-30 годзе з захаваньнем пры гэтым нормы.

Агульная патрэба забесьпячальнае часткі насельніцтва вызначаецца ў 3156 вагонах мукі (бяз чыгуначнага насельніцтва), з якіх на катэгорыю рабочых, што атрымоўваюць 600 гр. у дзень—986 вагонаў, на служачых і членаў сямей рабочых, па норме 300 грам у дзень і на забесьпячэньне ўстаноў, сталовак і г. д.—374 вагоны.

Усе праробленыя мерапрыемствы ў 1928-29 годзе па арганізацыі забесьпячэньня несельніцтва хлебам павінны атрымаць свой далейшы розьвітак і ўмацаваньне. Асабліва павінна быць завострана ўвага на поўнае забесьпячэньне насельніцтва печаным хлебам і на максымальнае палепшаньне якасьці прадукту. Пабудаваныя за апошнія гады хлебазаводы і хлебапякарні і намеркаваная будоўля іх у 1929-30 годзе наогул забясьпечваюць такія магчымасьці. У сыстэме мерапрыемстваў па паляпшэньню якасьці хлеба павінна быць завострана пытаньне пра стандартызацыю сыравіны.

Крыху іншаю ацэнкаю павінен быць адзначаны рынак мясных прадуктаў. Вялікая рэалізацыя сялянствам быдла зьмянілася паслабленьнем прапановы ў другім паўгодзьдзі, што пры павялічаным спажываньні насельніцтвам мяса ў цэлым за год прывяло да перабояў у забесьпячэньні гарадоў. Паводле папярэдніх падлікаў ЦСУ гадавая душавая норма вырасла з 55,7 клгр. у 1927-28 г. да 61 клгр. у 1928-29 годзе.

Пастаўленая народна-гаспадарчая задача па пашырэньню сялянскай жывёлы (чаму ў значнай ступені адпавядаюць кармавая база ў БССР, што паляпшаецца, з аднаго боку, і напружанасьць на рынку мясных прадуктаў у сувязі з чаканьнем больш стрыманае рэалізацыі, з другога боку) высоўвае перад намі правядзеньне жорсткае эканоміі ў выдаткаваньні мяса на аснове ўжываньня цэлага шэрагу мерапрыемстваў рэгуляцыі рынкамі. У асноўным гэтыя мерапрыемствы павінны быць праведзены па лініі зьдзейсьненьня ў поўным аб'ёме клясавага прынцыпу разьмеркаваньня пры складаньні на плянавым забесьпячэньні найбольш буйных гарадоў з прамысловым насельніцтвам, таксама мясанарыхтоўчых раёнаў. Правядзеньне клясавага прынцыпу разьмеркаваньня цесна зьвязана з умовамі аграмаджанага сэктару ў гандлі мясам.

Паводле арыэнтыровачных падлікаў аграмаджаньне мясного гандлю ў 1928-29 годзе і ў 1929-30 годзе выглядае так:

| ГАДЫ | Норма спажыван. на душу (у клгр.) | Агульнае спажыв. (у тон.) | Звароты аграмаджанага сэктару ў тонах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Ц. Р. К. | Т. П. О. | Іншыя | Усяго | Ахоп спажыв. гарадзк. насельн. |
| 1928-29 г. . . . . | 61 | 30000 | 12000 | 1440 | 1560 | 15000 | 50% |
| 1929-30 г. . . . . | 55 | 22200 | 17500 | 2000 | 1000 | 20500 | 67% |

Тлумачачы гэтую табліцу, мы лічым патрэбным адзначыць, што агульнае спажываньне ў 1928-29 годзе мы ўстанаўляем па колькасьці ўсяго

працоўнага насельніцтва 12 гарадоў, а для 1929-30 году выключна па каапэраванаму насельніцтву, налічанаму прыблізна ў 400 тысяч душ, выходзячы з вышэйпаданае ўстаноўкі на абслугоўваньне выключна аграмаджаным сектарам працоўных.

Апрача таго, мы выходзім з нормы спажываньня ў 1929-30 годзе, некалькі паніжанай у параўнаньні з 1928-29 годам, бо папярэднія падлікі ЦСУ аб таварным выхадзе мяса паказваюць на значную напружанасьць. Нават пры гэтай норме, разьлічанай на абслугоўваньне выключна каапэраванага насельніцтва, запраэктаваны зварот аграмаджанага сэктару не пакрываецца плянавымі нарыхтоўкамі. Плянавыя нарыхтоўкі на 1929-30 г. устаноўлены ў 25 тысяч тон, з якіх на забесьпячэньне Ваенведу і прамысловасьці патрэбна 15.000 тон; такім чынам, аграмаджаны сэктар плянавых нарыхтовак можа разьлічваць выключна на 10.000 тон. Дэфіцыт, відавочна, павінен быць пакрыты за лік прывозу з-за меж Беларусі каля 12.000 тон. Варочаючыся да пададзенае табліцы адзначаем, што ўдзельная вага аграмаджанага сэктару павялічваецца з 50 проц. да 67 проц, што зьвязана з далейшым разгортваньнем спэцыялізаваных адмыслова прыстасаваных для гандлю мясам крам да памераў утварэньня нармальных умоў у абслугоўваньні насельніцтва гэтым прадуктам. Утвораны напрамак у галіне забесьпячэньня мясам патрабуе кваліфікаваць памеры плянавых нарыхтовак, як мінімальнае заданьне. Сэзоннасьць паступленьня мяса на рынак, з аднаго боку, і інтарэс роўнамернага забесьпячэньня насельніцтва на працягу ўсяго году, з другога боку, ставяць пытаньні пра рэзэрваваньне мяса ў відзе арганізацый адкормачных апэрацый у памерах устаноўленых НКГандлем у першым паўгодзьдзі—4000 галоў буйнае жывёлы і 3500 сьвіньней. З апошніх на долю спажыўкаапэрацыі прыпадзе 2560 галоў.

Ва ўмовах прадбачанае напружанасьці на мясным рынку вялікае значэньне набывае работа з рыбаю, што часткова замяняе мясныя прадукты.

У зьвязку з гэтым рабочая каапэрацыя намяркоўвае павялічыць звароты са сьвежаю рыбаю з 500 тысяч руб. у 1928-29 годзе да 1,4 міл. р. у 1929-30 годзе, гэта значыць на 180 проц. Павялічваецца зварот з рыбаю і за лік уцягненьня ў зварот рабочае каапэрацыі прадукцыі мясцовага ўлову, што мяркуецца ў 1929-30 годзе ў 1300 тон супроць 500 тон у 1928-29 г. Выкананьне намяркованага звароту з рыбаю абумоўлена ўзмацненьнем увагі рабочае каапэрацыі да ўтварэньня спэцыяльнае крамнае сеткі і перамогі тае інэртнасьці, якая наглядаецца ў гэтай рабоце з боку шмат якіх арганізацый.

(*Канец будзе.*)

**Ф. Чамбулоў**

# За разьвіцьцё гандлю прадуктамі, якія хутка псуюцца

Хуткі тэмп індустрыялізацыі краіны і зьвязаны з гэтым рост гарадоў і прамысловых цэнтраў ствараюць праблему харчовага забесьпячэньня рабочага насельніцтва надзвычайна вострай і адказнай.

Хоць сельская гаспадарка наогул ужо перавысіла даваенны ўзровень, але тэмп яе разьвіцьця адстае ад тэмпу разьвіцьця прамысловасьці, а адсюль і тыя цяжкасьці, якія мы маем на шэрагу рынкаў сельска-гаспадарчых прадуктаў. Гэтымі цяжкасьцямі прабуе пакарыстацца прыватнік, які сваёю спэкуляцыйнаю працаю разбурае аграмаджаны тавараварот на другарадных рынках. А на вёсцы роля прыватніка, асабліва ў справе гандлю сельгаспрадуктамі, яшчэ значная.

Робячы ўсё магчымае для пашырэньня прадукцыі сельскае гаспадаркі і падвышэньня таварных хлебапрадуктаў і прадуктаў жывёлагадоўлі, мы разам з тым павінны ўзмацніць працу каапэрацыі па абхопу рынку сельска-гаспадарчых прадуктаў ня толькі ў буйных гарадох і рабочых цэнтрах, але і ў дробных пунктах. Было-б няправільна, калі-б каапэрацыйная сыстэма шукала вырашэньня гэтага балючага пытаньня—аўладаньня рынкам прадуктаў, якія хутка псуюцца, выключна ў цэнтралізаваным звароце.

Сыстэма спажывецкай каапэрацыі, якая вырасла і ўзмацнела на цэнтралізаваным звароце з прамтаварамі схільна і ў аўладаньні харчовымі рынкамі прадуктаў, якія хутка псуюцца, надаваць патрабаваньні да цэнтралізаванага забесьпячэньня. Між тым рынак мясцовых загатовак можа забясьпечыць попыт мясцовага насельніцтва. Такія патрабаваньні без патрэбы ацяжарваюць цэнтралізаванае забесьпячэньне і аднача сова ставяць каапэрацыйную працу з гэтымі прадуктамі ў нявыгадныя канкурэнцкія ўмовы на месцах з прыватнікам.

Але трэба мець на ўвазе, што мясцовыя працаўнікі каапэрацыі ў вырашэньні задачы выкарыстаньня мясцовых сельска-гаспадарчых рынкаў сустракаюць шэраг цяжкасьцяй. Тут часта зьяўляецца перашкодаю „мудрасьць“ рэгуляваньня загатовак, а часамі і сапраўдная цяжкасьць пагаджаць мясцовыя загатоўкі з цэнтралізаванымі.

Праблема цэн і раёнаў загатовак стаіць асабліва востра, і без яе вырашэньня ўзмацніць абхоп каапэрацыяй мясцовага звароту з сельска-гаспадарчымі прадуктамі надзвычайна цяжка.

Важным пытаньнем абхопу спажыўкаапэрацыяй мясцовага звароту сельска-гаспадарчых прадуктаў зьяўляецца пытаньне ўзаемаадносін с.-гаспадарчай і спажывецкай каапэрацыі. Нармальнае падзяленьне працы ў гэтай галіне ідзе да таго, што сельска-гаспадарчая каапэрацыя загатаўляе і арганізуе вытворчасьць, а спажывецкая каапэрацыя вядзе забесьпячэньне і арганізоўвае рынак спажываньня. Аднак у большасьці пунктаў гэтае разьмежаваньне функцый ня толькі далёка ад ідэальнага вырашэньня пытаньня, але большаю часткаю проста нятрывала. Сельгаскаапэрацыя сваіх абавязкаў па загатоўках ні ў колькасных, ні ў якасных адносінах ня выконвае, а спажывецкая каапэрацыя ўсе свае прабелы валіць на сельгаскаапэрацыю. У гэтым пытаньні так сама, як і ў пытаньні цэн і раёнаў загатовак, патрэбны ня толькі голыя схэмы, а канкрэтны падыход да кожнага асобнага пункту і добрае рэгуляваньне мясцовага рынку.

Нарэшце ў справе арганізацыі мясцовых рынкаў сельгаспрадуктаў, як і ўсяго харчовага рынку, каапэрацыя не павінна абмяжоўвацца толькі арганізацыяй звароту, але і арганізацыяй і паявлічэньнем вытворчай базы. Пытаньні прыгараднае сельскае гаспадаркі павінны стаць першымі задачамі ня толькі сельгаскаапэрацыі, але і спажыўкаапэрацыі. За арганізацыю прамысловага прыгараднага гародніцтва, малочнае і птушынае гаспадаркі павінна ўзяцца спажывецкая каапэрацыя нават у большай ступені, чым сельска-гаспадарчая каапэрацыя, якая павінна згрупаваць сваю ўвагу на адпаведнай арганізацыі і калектывізацыі дробных вытворцаў.

Такім чынам, вырашэньне задач абхопу мясцовых вытворчых рэсурсаў каапэрацыі залежыць ад дружнае, пагоджанае працы абодвух відаў каапэрацыі, ад пашырэньня і рэарганізацыі прыгараднае сельскае гаспадаркі, а таксама ад гнуткае сыстэмы мерапрыемстваў па рэгуляваньню мясцовага рынку загатовак і збыту. Рацыянальнае вырашэньне гэтае задачы патрабуе ня толькі дырэктыў цэнтру, але і ўліку канкрэтных умоў кожнага асобнага пункту і творчай ініцыятывы месц. Мясцовыя каапэрацыйныя арганізацыі павінны неадкладна ўзяцца за ўцягненьне мясцовых рэсурсаў харчаваньня ў свой зварот.

# Да ўсіх сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў Б. С. С. Р.

## I. Генэральная лінія сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту--сацыялістычная перабудова сельскае гаспадаркі

Савецкая ўлада і партыя ўзялі рашучы курс на сацыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі.

Калгасны рух пашыраецца нячуваным тэмпам, растуць савецкія гаспадаркі, трактарныя станцыі, пашыраецца кантрактацыя.

Па ўсёй лініі сельскае гаспадаркі ідзе рашучая ломка старых адсталых формаў гаспадарваньня і замена іх сацыялістычнымі формамі, адбываецца рэзкае клясавае распластаваньне вёскі, разгортваецца заўзятая клясавая барацьба.

У гэтай рабоце і ў гэтай барацьбе ролю аднаго з важнейшых рычагоў павінен адыграць сельска-гаспадарчы крэдыт.

Важнейшай задачай сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту зьяўляецца мабілізацыя сродкаў насельніцтва і іх сацыяльнае пераразьмеркаваньне.

У той-жа час разьмеры прыцягнутых сыстэмай сел.-гасп. крэдыту сродкаў зусім нязначны як па суме, так і ў суадносінах да дзяржаўных сродкаў, якія ўкладзены ў справу сельска-гаспадарчага крэдыту.

Ёсьць цэлы шэраг партыйных і савецкіх дырэктыў сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту аб неабходнасьці ўзмацненьня прыцягненьня яе нізавой сеткай сродкаў насельніцтва. Савет Народных Камісараў БССР пастановай сваёй ад 25 сакавіка 1929 году прызнаў неабходным лічыць мерай пасьпяховасьці работы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту разьмеры прыцягнутых яе нізавой сеткай сродкаў насельніцтва. Белсельбанкам на бягучы год была дадзена кантрольная лічба сродкаў, якія падлягаюць прыцягненьню ад насельніцтва ў суме адзін мільён пяцьсот тысяч рублёў, і паказаны шэраг спосабаў іх прыцягненьня (мэтавыя ўклады і інш.). Ня гледзячы на ўсё гэта, за бягучы год пачатковай сеткай прыцягнута вельмі мала ўкладаў.

## II. Вырваць з карэньнем правы ўхіл і апартунізм на практыцы

Пастаноўка пазычковых апэрацый у пачатковай сетцы таксама застаўляе пажадаць лепшага. Значная частка сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў і да гэтага часу яшчэ ня вызвалілася ад уплыву кулацкіх элемэнтаў і не ўзяла цьвёрдага курсу на калектывізацыю, на ўздым бядняцка-серадняцкіх мас, на тэхнічныя пераабсталяваньні сельскае гаспадаркі.

Пазыкі часта пападаюць у рукі кулакоў, заможных і ўтвораных імі ілжэкалгасаў і ілжэкаапэратываў; так, напрыклад, у Сьмілавіцкім раёне, Менскай акругі, былі выкрыты такія зьявішчы, калі ўласьнік смалярнага заводу зарганізаваў ілжэмэліорацыйнае таварыства з сваіх рабочых і дабіўся крэдыту, які накіраваў на выкарчоўку карчоў для свае смалярні. У Чэрвенскім раёне, Менскай акругі, група кулакоў таксама была зарганізавала ілжэмэліорацыйнае таварыства, атрымала пазык на 2052 руб., якія падзяліла паміж сабой. Ёсьць і яшчэ шмат такіх прыкладаў, калі дзяржаўныя сродкі, замест таго, каб дапамагаць гаспадарчаму ўздыму бядняцка-серадняцкіх мас сельскага насельніцтва і сацыялістычнай перабудове вёскі, служаць часта да збагачэньня і ўзмацненьня асобных груп, якія зьяўляюцца ворагамі савецкай улады.

Пазыкі часта выдаюцца асобам, якія не займаюцца зусім сельскай гаспадаркай, альбо скарыстоўваюцца пазычнікамі не па прызначэньню. Так, напрыклад, у Горацкім сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве пазыкі выдаваліся на значныя сумы навуковым працаўнікам Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, студэнтам, фатаграфшчыку, былому жандару, які не займаецца сельскай гаспадаркай, народным судзьдзям, працаўнікам райвыканкому і г. д. У Талочынскім сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве, Аршанскай акругі, і ў Асіпавіцкім сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве, Бабруйскай акругі, пазыкі выдаваліся служачым чыгуначнай станцыі, настаўнікам, служачым РВК і розным іншым асобам, якія не займаюцца сельскай гаспадаркай. У выніку сродкі сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ня прыносяць патрэбнай карысьці справе разьвіцьця і перабудовы сельскае гаспадаркі.

## III. Нездавальняючае спагнаньне пазык зрывае плян сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі

Найвялікшай шкодай у працы сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў зьяўляецца надзвычайна шырокае распаўсюджваньне пратэрміновак пазык, якія выводзяць са звароту сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту вялізарныя сродкі, што пазбаўляе значныя масы бядняцка-серадняцкага сялянства крэдытнай дапамогі і зрывае выкананьне пляну сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Агульная сума пратэрмінаваных пазык па пачатковай сетцы ў гэты час складае, прыкладна, каля паўтара мільёна рублёў і мае тэндэнцыю да далейшага павялічэньня.

Дзякуючы гэтым пратэрміноўкам, дзякуючы нядобрасумленнасьці і безгаспадарчасьці часткі пазычнікаў, бядняцка-серадняцкія масы і ўтвораныя імі калектыўныя гаспадаркі і вытворчыя аб'яднаньні не даатрымліваюць па БССР кала паўтара мільёна рублёў пазык і пазбаўляюцца, такім чынам, многіх тысячаў сельска-гаспадарчых машын і арудзьдзяў, якія маглі-б набыць за рахунак гэтых сродкаў. Пляны крэдытаваньня сельскай гаспадаркі зрываюцца. Вызначаны тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі затрымліваецца.

## IV. Калектыўныя гаспадаркі павінны паказаць прыклад выкананьня сваіх абавязацельстваў

Сярод няспраўных пазычнікаў маюць месца калектыўныя гаспадаркі; бываюць выпадкі, калі яны ўхіляюцца ад аплаты па пазыках, часта нават і тагды, калі маюць значныя запасы нерэалізаванай яшчэ таварнай прадукцыі.

Такія адносіны асобных калгасаў да сваіх пазычковых абавязацельстваў зьяўляюцца асабліва недапушчальнымі, бо яны дыскрэдытуюць увесь калгасны рух і ўносяць разлажэньне ў шэрагі іншых пазычнікаў сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў, іграючы гэтым на руку ворагам сацыялістычнай перабудовы вёскі.

## V. Палажыць канец фармалізму і бюракратызму!

Мясцовыя органы і ў першую чаргу самі-ж сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы праяўляюць зусім недапушчальныя фармальныя адносіны да работы па барацьбе з пратэрміноўкамі пазык, тым самым

ухіляюцца ад дакладнага выкананьня дырэктыў партыі і ўраду. Так, напрыклад, у Горацкім сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве, Аршанскай акругі, было праведзена некалькі сходаў, аб'яўлена спаборніцтва ўпаўнаважаных, зроблена разьвёрстка паміж сельсаветамі, а члены праўленьня таварыства ніводнага разу ня выехалі ў вёску для правядзеньня канкрэтнай працы па спагнаньню пратэрмінаваных пазык. У Чарэйскім сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве праўленьне таварыства нічога не рабіла па спагнаньню пратэрмінаваных пазык, пратэрміноўкі дасягнулі сумы да 30.000 рублёў, шмат абавязацельстваў нават страцілі сваю моц па прычыне грамадзянскай даўнасьці.

Спагнаньне пратэрмінаваных пазык часта пераварочваецца ў чыста фармальную працэдуру, якая ў значнай масе выпадкаў закончваецца складаньнем актаў аб незаможнасьці пазычнікаў і якая па сутнасьці сваёй мае мэтай толькі зьняць адказнасьць з сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў і мясцовых органаў улады за посьпех барацьбы з пратэрміноўкамі. Так, напрыклад, пры абсьледваньнях таварыстваў былі такія факты, калі сотнямі ляжалі ў таварыствах судовыя загады на нязначныя сумы з адзнакамі аб незаможнасьці пазычнікаў, а ў сапраўднасьці высьвятлялася, што амаль усе гэтыя пазычнікі маглі-б сплаціць гэты доўг пры адпаведным націску з боку праўленьняў таварыстваў. Таксама заўважаны і факты няправільнага складаньня выканаўцамі актаў аб незаможнасьці ў той час, калі пазычнікі былі заможнымі.

Сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы часта наймаюць судовых выканаўцаў і міліцыянэраў і даручаюць ім усю справу збору пазык, адхіляючыся ад яе зусім і лічачы сябе вольнымі ад якой-небудзь адказнасьці за яе.

У іншых выпадках сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, жадаючы без асобых клапот засьведчыць сваё імкненьне ў працы па барацьбе з пратэрміноўкамі, разам падаюць да спагнаньня ўсе пратэрмінаваныя абавязацельствы сваім пазычнікам, у тым ліку і капеечныя, выкліканыя часам непаразуменьнем ад няправільных рахунковых запісаў, і тым самым зрываюць барацьбу з пратэрміноўкамі.

## VI. Хто парушае клясавую лінію, той вораг сацыялістычнай будоўлі

Некаторыя сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы не ўдзяляюць зусім увагі датэрміноваму спагнаньню пазык з кулакоў, ілжэкалгасаў, ілжэкаапэратываў, асоб, якія не займаюцца сельскай гаспадаркай, і гаспадарак, што скарысталі пазыкі не па прызначэньню, праяўляючы гэтым самым недапушчальную нядбайнасьць, а калі-небудзь і злачыннае патураньне антысавецкім элемэнтам і асобам, якія зрываюць сацыялістычную перабудову вёскі.

Нарэшце, сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы зусім не вядуць паясьняльна-агітацыйнай работы на карысьць добраахвотнага датэрміновага пагашэньня пазык.

Такое становішча далей быць ця можа цярпіма. Пры такіх умовах сельска-гаспадарчы крэдыт у значнай меры выпадае з ліку тых магутных фактараў сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, у шэрагу якіх ён павінен займаць пачэснае месца, і часта скарыстоўваецца нават як арудзьдзе барацьбы з гэтай перабудовай і з усёй палітыкай партыі ў вёсцы.

Усе сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы павінны цьвёрда стаць на шлях, вызначаны дырэктывай партыі і ўраду.

**VII. Мабілізацыя грамадзкасьці і актыўнасьць працаўнікоў сыстэмы забясьпечаць выкананьне заданьня партыі і ўраду**

У работу сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў павінна быць уцягнута самая шырокая сельская грамадзкасьць. Толькі пры наліччы цясьнейшай сувязі гэтыя таварыствы змогуць вытрымаць правільны курс і працівастаць усім варожым савецкай уладзе ўплывам.

Сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы павінны шырока скарыстоўваць гэта права.

Сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы павінны ўлічыць усё вялікае народна-гаспадарчае і палітычнае значэньне работы па барацьбе з пратэрміноўкамі і мабілізацыі сродкаў насельніцтва і зрабіць усё залежнае для пасьпяховага яе выкананьня. Яны павінны памятаць, што іх работа ў гэтай галіне будзе ацэньвацца ня колькасьцю праведзеных мерапрыемстваў, а яе рэальнымі вынікамі. Усе дапушчаныя ў ёй няправільнасьці будуць сурова карацца, як зрыў палітыкі партыі ў вёсцы па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі.

*Праўленьне Беларускага сельска-гаспадарчага банку.*

---

С. Кудзінаў

# Шляхі рэканструкцыі нашае сельскае гаспадаркі

### Разгортваньне калгаснага будаўніцтва па БССР

Рашэньні XV Усесаюзнага партзьезду і XVI партканфэрэнціі і зьвязанае з імі ўзмацненьне фінансаваньня і абслугоўваньня калгасаў зрабілі рэзкі пералом у калгасным руху. З гэтага часу калгасны рух выходзіць на шырокі шлях перабудовы і рэканструкцыі распыленае сялянскае гаспадаркі на сацыялістычнай падставе. Вялікі рост калгасаў, які пачаўся ў мінулым 1927-28 годзе, прайшоў з яшчэ большым тэмпам у гэтым 1928-29 г.

Агульная плошча зямлі пад калгасамі павялічылася з 94458 га на 1/X-28 г. да 287520 га на 1/X-29 г.

Шпарка разгорнутае ў 1929 годзе калгаснае будаўніцтва перавысіла ўсе плянавыя заданьні як плянуючых, так і абслугоўваючых калгасны рух органаў.

На 1/VIII 29 г. колькасьць нанова арганізаваных калгасаў па БССР дае 163 проц. выкананьня пляну. Па ахопу зямельнай плошчы гэты плян перавышаны на 152,3 проц. Калі ў пачатку 1929 г. ня было ўпэўненасьці, што дырэктыва ўраду аб тым, каб сярэдняя плошча нанова арганізаваных калгасаў была ня менш 149 га, ня будзе выканана дык у канцы году гэтая дырэктыва была выканана з перавышэньнем на 80 проц.

Такім чынам, разам з павялічэньнем колькасьці калгасаў наглядаецца і якаснае іх паляпшэньне. Калі сярэдняя плошча калгасаў, якія арганізаваліся ў 1928 г., была роўнай 65 га, то ў 1929 г. гэтая сярэдняя плошча на новых калгасах складае 235,5 га.

## Становішча новай сеткі калгасаў па акругах

Па пляну ў 1928-29 г. па БССР павінна быць арганізавана 360 новых калгасаў на плошчы 52860 га. З 1/X-28 г. па 1/VIII-29 г. было арганізавана 587 калгасаў на агульнай плошчы ў 133409,8 га. Ужо ў гэты час усімі акругамі БССР выкананы плян са значным перачышэньнем як па колькасьці калгасаў, так і па іх плошчы.

Аднак, якасны бок калгаснага будаўніцтва не ва ўсіх акругах быў аднолькавы. Гэта відаць з наступнага:

| НАЗВА АКРУГІ | Пляпавае заданьне | | Арганізав. з 1/X-28 г. па 1/VIII-29 г. | | 0/00/0 выкананьня пляну | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | Плошча га | Колькасьць | Плошча ўсіх калг. га | Сярэд. плошча га | Па колькасьці | Па плошчы га |
| Менская | 40 | 5760 | 67 | 10746,8 | 160,4 | 167,5 | 186,5 |
| Бабруйская | 60 | 9600 | 68 | 13138,0 | 193,2 | 113,3 | 136,8 |
| Полацкая | 40 | 5625 | 61 | 8634,0 | 141,5 | 152,5 | 153,1 |
| Гомельская | 35 | 5175 | 39 | 15493,0 | 397,0 | 111,4 | 299,3 |
| Віцебская | 40 | 5700 | 107 | 10067,0 | 94,0 | 267,5 | 176,6 |
| Магілеўская | 60 | 8600 | 124 | 42293,0 | 346,7 | 906,6 | 491,7 |
| Аршанская | 60 | 8325 | 67 | 13698,0 | 204,4 | 111,6 | 164,5 |
| Мазырская | 25 | 4075 | 54 | 19840,0 | 367,4 | 216,0 | 487,3 |
| Усяго па БССР | 360 | 52860 | 587 | 133409,8 | 227,2 | 163,0 | 252,3 |

На першым месцы па выкананьні пляна па ахопу калектывізацыяй зямельнай плошчы стаяць Магілеўская (491,7 проц.), Мазырская (487,3 проц.) і Гомельская (299,3 проц.) акругі.

Па разьмеру сярэдняй плошчы нанова арганізаваных калгасаў уперадзе ідуць Гомельская акруга (397 га), Мазырская (367,4 га) і Магілеўская—(346,7 га). На апошнім месцы знаходзяцца Полацкая (141,5 га) і асабліва Віцебская—(94 га) акругі, з якіх апошняя нават ня выканала дырэктывы ўраду аб давядзеньні сярэдняй плошчы пад новымі калгасамі да 140 га.

Такім чынам, калгаснае будаўніцтва найлепш разгарнулася як з якаснага, гэтак і з колькаснага боку па Магілеўскай, Мазырскай і Гомельскай акругах, а найгорш--па Віцебскай і Полацкай акругах.

## Узбуйненьне старых калгасаў

Яшчэ ў пачатку гэтага году меліся выпадкі арганізацыі дробных калгасаў. Дробных-жа калгасаў па старой сетцы мелася вялікая колькасьць. Нават на 1/V-29 г. колькасьць калгасаў-карлікаў, з плошчай да 50 га, складала 15,9 проц. усяе сеткі. Падаўляючая колькасьць калгасаў (88,3 проц.) была з плошчай менш 200 га.

Аднак, у працэсе афармленьня і земляўпарадкаваньня шмат дробных калгасаў было ўзбуйнена. Таксама былі прыняты меры да ўзбуйненьня старых калгасаў як шляхам зьліяньня 2 сумежных дробных калгасаў ў адзін больш буйны, так і шляхам далучэньня да іх навакольных сялянскіх гаспадарак, іх груп, частак і цэлых пасёлкаў, а таксама вёсак. Такім чынам, зьлілося 90 калгасаў, даўшы 45 больш буйных; было ўзбуйнена 212 старых калгасаў на агульную плошчу ў 21098 га.

Зьліяньне калгасаў і іх узбуйненьне ішло па асобных акругах наступным чынам:

| НАЗВА АКРУГІ | Узбуйнена калгасаў | | Зьлілося калгасаў: Іх колькасьць | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | На плошчы | Да зьліяньня | Пасьля зьліяньня |
| Менская | 44 | 1791 | 22 | 11 |
| Бабруйская | 41 | 9443 | 18 | 9 |
| Гомельская | 4 | 3111 | — | — |
| Аршанская | 84 | 1036 | 24 | 12 |
| Віцебская | 13 | 2360 | — | — |
| Магілеўская | 5 | 681 | 18 | 9 |
| Мазырская | 3 | 1040 | 4 | 2 |
| Полацкая | 18 | 1636 | 4 | 2 |
| Усяго па БССР | 212 | 21098 | 90 | 45 |

Зьвесткі аб узбуйненьні і зьліяньні калгасаў далёка ня поўныя. Усё-ж такі лічбы сьведчаць аб значнай рабоце, праведзенай па акругах у адносінах узмацненьня старой сеткі калгасаў. Асабліва шырока разгарнулась гэта работа па Бабруйскай і Гомельскай акругах.

## Што даў дзень калектывізацыі

Дзень калектывізацыі сьвяткаваўся на Беларусі 28 жніўня. Гэты дзень адзначаны новымі дасягненьнямі па шляху калгаснага будаўніцтва. У гэты дзень па БССР арганізавана па 7 акругах 143 новыя калгасы на плошчы 38555 га.

Такім чынам, на 1/IX-29 г. колькасьць калгасаў павялічылася да 1679 пры агульнай іх зямельнай плошчы ў 287.520,8 га.

Па акругах у дзень калектывізацыі была арганізавана наступная колькасьць калгасаў:

| НАЗВА АКРУГІ | Арганізавана ў дзень калектывізацыі | | Усяго ёсьць на 1/IX-29 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць калгасаў | На плошчы га | Колькасьць калгасаў | На плошчы га |
| Менская | 29 | 8449 | 216 | 31728,8 |
| Бабруйская | 12 | 3225 | 179 | 38020,0 |
| Гомельская | 8 | 2400 | 143 | 28611,0 |
| Аршанская | 38 | 10801 | 271 | 41217,0 |
| Віцебская | 21 | 7841 | 245 | 30267,0 |
| Магілеўская | няма зьвест. | — | 333 | 64704,0 |
| Мазырская | 22 | 4000 | 130 | 31685,0 |
| Полацкая | 13 | 1839 | 162 | 21289,0 |
| Усяго па БССР | 143 | 38555 | 1679 | 287520,8 |

Найлепшыя вынікі даў дзень калектывізацыі па Аршанскай, Менскай Віцебскай і Мазырскай акругах.

## Арганізацыя буйных калгасаў

Калгаснае будаўніцтва прыняло ў гэтым годзе новыя нябачаныя дагэтуль на Беларусі формы. Хутка пачалі арганізоўвацца буйныя калгасы, калгасы-гіганты, якія маюць плошчу ад 1000 да 4000 га зямлі кожны.

Гэтакіх калгасаў цяпер налічваецца 40. Колькасьць калгасаў з плошчай ад 509 да 1000 га зямлі перавышае 60.

Становішча буйных калгасаў па акругах на 1/IX-29 г. відаць з наступнага:

| НАЗВА АКРУГІ | Колькасьць калгасаў па плошчы | | |
|---|---|---|---|
| | Ад 500 да 1000 га | Звыш 1000 га | Усяго буйных калгасаў |
| Менская | 3 | 1 | 4 |
| Бабруйская | 10 | 4 | 14 |
| Гомельская | 16 | 7 | 23 |
| Аршанская | 3 | 4 | 7 |
| Віцебская | 2 | 3 | 5 |
| Магілеўская | 19 | 11 | 30 |
| Мазырская | 6 | 10 | 16 |
| Полацкая | 2 | — | 2 |
| Усяго па БССР | 61 | 40 | 101 |

Сярод буйных калгасаў мы маем такія гіганты, як „Камунар Магілеўшчыны“, які аб‘ядпае 8 вёсак і плошчу зямлі звыш 4000 га, „Ленінскі Шлях“—з плошчай звыш 2000 га, чырвонаармейскую камуну „імя Беларускае Ваеннае Акругі“ на Мар‘інскім балотным масыве, якая мае звыш 2000 га, Арэвіцкі калгас „Камунар“ у 2500 га, 6 буйных калгасаў Даманавіцкага сельсавету, якія ўваходзяць у куставое аб‘яднаньне з 11 калгасаў, на плошчы 11000 га, і шэраг буйных калгасаў.

## Суцэльная калектывізацыя сельсаветаў і раёнаў

Перайшоўшы рэйкі буйнага калгаснага будаўніцтва, калгасны рух на Беларусі прыняў масавы характар. Зараз ужо вызначыліся цэлыя раёны суцэльнай калектывізацыі, дзе дагэтуль калектывізавана ад 15 да 20 проц. усяе зямельнае плошчы, як, напрыклад, Клімавіцкі раён, Магілеўскай акругі, Лоеўскі раён, Гомельскай акругі, Юравіцкі раён, Мазырскай акругі і інш.

Мы маем шмат такіх сельскіх саветаў, як Пуцімельскі, Даманавіцкі, Савініцкі, Іванаўскі, Ручаёўскі і г. д., якія ўжо калектывізаваны на 60—75 проц. і звыш ад усяе зямельнай плошчы гэтых сельсаветаў.

Даманаўскі сельсавет, Калінкавіцкага раёну, Мазырскай акругі, зьяўляецца першым на Беларусі сельскім саветам, які ў гэтым годзе калектывізаваны на ўсе 100 проц.

У Даманавіцкім сельсавеце да апошняга часу існавала хутарская, сталыпінская сыстэма землякарыстаньня. У гэтым сельсавеце было 9 насялёных пунктаў і 1134 двары, з агульнай плошчай зямлі ў 11000 га. Цяпер гэты сельсавет поўнасьцю перайшоў на суцэльную калектывізацыю. Там арганізавана 11 калгасаў, з якіх большая палова буйных, звыш 1000 га. Частка калгасаў ужо земляўпарадкавана на плошчы 500 га.

Усе калгасы Даманавіцкага сельсавету аб‘ядпаюцца ў адзін куст. У гэтым кусьце будзе арганізавана трактарная калёна, будуць дадзены агранамічна-тэхнічныя сілы.

У Клімавіцкі раён суцэльнай калектывізацыі будзе дадзена ня менш 2 трактарных калён, і ва ўсе буйныя калгасы раёну будуць накіраваны для сталага абслугоўваньня аграномы. На раёны і сельсаветы суцэльнай калектывізацыі будзе зьвернута асаблівая ўвага па іх абслугоўваньню і гаспадарчаму ўзмацненьню калгасаў, а таксама па далейшай калектывізацыі гэтых раёнаў.

## Калгасы замест сталыпінскіх хутароў

Як мы бачым, шырокае разгортваньне калгаснага руху не змагло не закрануць старых сталыпінскіх хутароў. Зараз мы маем шмат соцень хутарскіх гаспадарак, якія ўліліся ў старыя калгасы, а таксама наглядаецца арганізацыя шэрагу калгасаў выключна з хутарскіх гаспадарак.

Па няпоўных зьвестках па 6 акругах БССР арганізавана 37 такіх калгасаў, якія аб'ядналі хутары з 2172 гаспадаркамі на агульнай плошчы 17916 га, пры сярэдняй плошчы 1 калгасу ў 485,5 га.

Як праходзіць гэтая вялікая ломка хутарскай гаспадаркі па акругах, відаць з наступнай табліцы:

| НАЗВА АКРУГІ | Лік калгасаў, якія арганізаваліся з хутароў | Агульная зямельная плошча ў іх | Колькасьць двароў |
|---|---|---|---|
| Менская | Няма зьвестак | | |
| Бабруйская | 3 | 1800 | 215 |
| Гомельская | 2 | 1800 | 100 |
| Аршанская | 5 | 856 | 106 |
| Віцебская | Няма зьвестак | | |
| Магілеўская | 15 | 2214 | 589 |
| Мазырская | 11 | 11000 | 1134 |
| Полацкая | 1 | 250 | 28 |
| Усяго па БССР | 37 | 17916 | 2172 |

Калгасны рух асабліва шырока ахапіў бядняцка-серадняцкія масы сялянства, а таксама яўрэйскага местачковага насельніцтва.

У мэтах рэгуляваньня сацыяльнага складу калгасаў прымаюцца меры, якія забясьпечваюць простую падтрымку беднаце і батрацтву пры іх уваходжаньні ў калгасы.

З гэтай мэтай створаны фонды каапэраваньня беднаты ў калгасы і прымаюцца меры па ўзьдзейнічаньню на ўсе сыстэмы каапэрацыі па стварэньню гэтых фондаў. Па няпоўных зьвестках па 6 акругах БССР на 1/VIII-29 г. у новыя калгасы было ўцягнута каля 160 батракоў, 100 жанчын-адзінак, 45 чырвонаармейцаў і іх сем'яў, а таксама каапэравана 2026 сямей беднаты.

За гэты-ж час было скарыстана звыш 82 проц. сродкаў, якія вылучаны на каапэраваньне беднаты.

Рух бядняцка-серадняцкіх мас ў калгасы і ўзрост калгаснага будаўніцтва па БССР асабліва завойстрылі клясавую барацьбу на вёсцы, выклікаўшы надзвычайнае злаваньне кулацтва і яго адкрытыя выступленьні супроць калгасаў.

Дзеля гэтага бядняцтва ў саюзе з серадняком павінна аб'яднацца пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі з тым, каб і ў далейшым са ўсёй рашучасьцю біць клясавага ворага, вырываць корні капіталізму на вёсцы і моцна разгортваць сацыялістычную гаспадарку.

Ф.

# Некалькі слоў з гісторыі Менскага ЦРК

Гісторыя арганізацыі Менскага ЦРК цесна зьвязана з рэвалюцыйнаю барацьбою рабочае клясы гораду Менску.

За некалькі месяцаў да Кастрычнікавае рэвалюцыі, па ініцыятыве рабочых, з мэтаю вызваленьня ад прыватнага гандлю быў арганізаваны першы каапэратыў у горадзе Менску „Яднаньне“. У пэрыод нямецкай акупацыі арганізаваўся другі рабочы каапэратыў „Молат“, а ў 1918 годзе рабочыя-будаўнікі стварылі каапэратыў „Аб‘яднаны Будаўнік“.

Да моманту акупацыі Беларусі белапалякамі ўсе каапэратывы ў горадзе Менску, а іх налічвалася да 40, аб‘ядналіся ў адзін Менскі ЦРК.

Гісторыя гэтага каапэратыву абарвалася з прыходам белапалякаў: 25 крам і 3 харчэўні былі разрабаваны польскімі акупантамі. Шмат супрацоўнікаў было арыштавана, і толькі невялічкая частка пасьпела захавацца. Па сьціплых падліках, палякі прынесьлі страт ЦРК ня менш чым на 300 тысяч рублёў. Над крамамі, якія ўцалелі ад разбурэньня з боку палякаў, быў пастаўлены кантроль. Праўленьне працавала пад наглядам польскага камэнданта, але гэтая апека не магла прымусіць праўленьне ЦРК адмовіцца ад дапамогі камуністычным ячэйкам, якія ў той час знаходзіліся ў падпольлі. Каапэрацыйныя ідэі рабочае клясы былі мацней нямецкага боту і польскага гвалту. У той-жа год на невялічкія грошы рабочыя арганізавалі „Саюз Рабочых Каапэратываў“, але каапэрацыйная справа рухалася марудна, і толькі, калі прагналі белапалякаў, каапэрацыя атрымала поўнае грамадзянства на існаваньне. Неадкладна было арганізована ЕПО. Разам з тым па прадпрыемствах і ўстановах адчыняліся асобныя каапэратывы, і нарэшце ў 1923 годзе ўсе разрозьненыя каапэратывы аб‘ядналіся ў адзін сучасны МЦРК.

За 12 год свайго існаваньня і за 6-7 год нармальнае працы Менскі ЦРК зрабіў вялікія посьпехі.

Калі ў 1923-24 годзе МЦРК налічваў 6031 пайшчыка, дык на 1 кастрычніка 1929 году колькасьць пайшчыкаў узрасла да 44328 без вайсковых. Члены прафсаюзаў каапэраваны цяпер на 95 проц. Ёсьць дасягненьні ў галіне каапэраваньня жанчын. На 1 кастрычніка 1929 году ўтрыманцаў, жонак пайшчыкаў і жанчын-работніц, каапэравана 15051 чалавек.

Узмацняецца каапэрацыйная дысцыпліна. На 1 кастрычніка 1929 году ЦРК мае паявога капіталу 628 тысяч руб. супроць 10 тысяч рублёў у 1924 годзе. За адзін толькі 1928-29 год сабрана паявога капіталу 325 тысяч рублёў. Сярэдні пай на аднаго пайшчыка з 6 рублёў у 1927 годзе ўзрос да 14 р. 20 к. на 1 кастрычніка 1929 году. За кошт выцясьненьня прыватніка пашыраецца гандлёвая сетка ЦРК. У 1923 годзе ЦРК меў 18 гандлёвых адзінак, а на 1 кастрычніка 1929 году пайшчыкі абслугоўваюцца 178 крамамі, 30 ларкамі і кіёскамі, 54 буфэтамі і 12 харчэўнямі. Адбудаваны хлебны завод, і цяпер ідзе падрыхтоўка да пабудовы фабрыкі кухні на 15 тысяч абедаў. Пашыраецца асартымэнт тавараў, галоўным чынам, за кошт павялічэньня забесьпячэньня пайшчыкаў харчовымі таварамі, якіх у 1928-29 годзе прадана на 12 млн. 557 тыс. руб., супроць звароту па гэтай-жа групе тавараў у 4 млн. руб. у 1925-26 годзе.

Арганізавана забесьпячэньне пайшчыкаў кнігай, радыё-апаратурай і іншымі таварамі. Рост зваротаў ЦРК па гадох найлепш доказвае паляпшэньне абслугоўваньня спажыўцоў: у 1926-27 годзе было прадана тавараў на суму 10 млн. руб., у 1927-28 г. на 14 млн. руб., у 1928-29 г. на 23 з паловаю млн. руб., і на 1929-30 год запраэктавана зрабіць

зварот у 34 з лішкам млн. руб. Удзельная вага на Менскім рынку ўзьнялася з 36 проц. у 1927 годзе да 75-80 проц. у 1928-29 годзе.

Разам з гаспадарчым ростам расьце каапэрацыйная грамадзкасьць. 246 упаўнаважаных, 617 членаў каап. камісій, 220 каапэрацыйных арганізатараў—вось тая армія каапэрацыйнага актыву, які разам з ЦРК будуе каапэрацыйную справу. А яшчэ нядаўна, у 1924 годзе, ЦРК ледзь налічваў 300 чалавек каапэрацыйных актывістаў, якія хутчэй лічыліся ў сьпісах, чым прымалі ўдзел у практычнай працы каапэратыву.

Ёсьць хоць яшчэ і невялічкія дасягненьні ў галіне бытавое працы. Ужо тры гады існуе дзіцячы ачаг на 42 чалавекі, летам працуе дзіцячая пляцоўка на 50 чалавек і дзіцячыя яслі на 20. У бягучым годзе накіравана 47 дзяцей пайшчыкаў у дамы адпачынку Не забытыя і маткі. У 1927 годзе адчынены магазын „Маці і Дзіця“ і цяпер робіць звароты да 75 тыс. рублёў у месяц.

Вялікую ўвагу ЦРК аддаваў абслугоўваньню частак Чырвонае арміі Менскага гарнізону, якіх абслугоўвалі і на зімовых стаянках, на манэўрах і ў лягерох. Няма ніводнае ў Менску вайсковае часткі, якая-б ня была ахоплена якою-небудзь гандлёваю адзінкай. Не адзін дзесятак чырвонаармейцаў, якія навучаліся на каапэрацыйных курсах, цяпер на вёсцы руйнуюць дзедаўскія звычаі, будуюць жыцьцё на каапэрацыйных пачатках. У тыдзень „Агляду Чырвонае Казармы“ у частках гарнізону адчынена 6 чайных.

Чым больш расьце каапэратыў, тым, натуральна, больш рабочая кляса надае да яго запатрабаваньняў. Ад агульнае ацэнкі працы ЦРК два гады таму назад цяпер пайшчыкі на сходах абгаварваюць кожную дробязь, кожную галіну працы.

Вось гэтыя посьпехі МЦРК мае ў выніку напружанае працы каапэрацыйнага апарату, актыўнай дапамогі каапэрацыйнага актыву, садзейнічаньня прафэсыянальных арганізацый і моцнага кіраўніцтва Ленінскай камуністычнай партыі.

У 13 гадавіну кастрычнікавае рэвалюцыі Менскі ЦРК уваходзіць пад асноўным лёзунгам „максымальнага і ўсебаковага паляпшэньня абслугоўваньня рабочае клясы“.—На падставе самае шырокае самакрытыкі рабочая кляса павядзе свой каапэратыў да новых, больш буйных дасягненьняў, як яна вяла на працягу ўсяе яго гісторыі.

---

А. Фрыд

# Пяць год працы Ўсекабанку

Асноўныя задачы каапэрацыйнага банку наступныя: 1) арганізацыя крэдытнага фонду для крэдытаваньня каапэрацыйных арганізацый на падставе, галоўным чынам, мабілізацыі сродкаў самой каапэрацыі і разьмеркаваньне іх паміж сыстэмамі і арганізацыямі, згодна крэдытных плянаў; 2) дапамога ў арганізацыі грашовае гаспадаркі каапэрацыі шляхам вядзеньня яе касава-разрахунковых апэрацый і ўдзельнічаньня ў складаньні яе крэдытных і грашовых плянаў. Гэтая задача пачынае вырашацца ў сыстэме Ўсекабанку толькі ў апошнія месяцы, а ў нас, у БССР, знаходзіцца ў працэсе прапрацоўкі і пачатковых спроб.

Мабілізацыя сродкаў каапэрацыйных арганізацый у крэдытныя фонды кароткатэрміновага і доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыі ажыцьцяўляецца шляхам: 1) збору паёў ад каапэрацыйных арганізацый, 2) збору адлічэньняў ад чыстых прыбыткаў арганізацый у іх запасныя капіталы, згодна закону ЦВК і СНК СССР ад 23/V-28 г. (у крэдытны фонд застаецца 60 проц. ад сабраных сум), 3) збору сродкаў каапэрацыйных арганізацый на бягучыя рахункі (у фонды кароткатэрміновага крыдытаваньня),

4) збору адлічэньняў ад чыстых прыбыткаў каапэрацыйных арганізацый згодна закону ЦВК і СНК СССР ад 20 жніўня 1928 г. і палажэньня аб ФДК, зацьверджанага Экана Беларусі 28/V—1928 г., 5) збору сродкаў ад прыбыткаў Белагэнцтва каапэрацыйнага страхаваньня (у фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня).

Акрамя сродкаў каапэрацыйных арганізацый, у склад фонду кароткатэрміновага і доўгатэрміновага крэдытаваньня Беларускае к-ры Ўсекабанку ўваходзяць: 1) бягучыя рахункі іншых, акрамя каапэрацыйных, галоўным чынам, прафэсыянальных арганізацый, 2) сродкаў праўленьня дробных крыніц і з розным прызначэньнем, 3) іншых пасываў, 4) бюджэтных сродкаў для каапэрацыйных сыстэм, згодна вышэйпаданага палажэньня аб фондах.

## Пасывы балянсу Белканторы Ўсекабанку

| | На 1/X 1924 г. | На 1/X 1925 г. | На 1/X 1926 г. | На 1/X 1927 г. | На 1/X 1928 г. | На 1/VII 1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Паявы капітал | 138,9 | 189,9 | 256,8 | 340,6 | 444,2 | 562,8 |
| Запасныя капіталы | — | — | — | — | 71,5 | 325,4 |
| Бягучыя рахункі | 55,2 | 573,7 | 523,4 | 676,1 | 844,6 | 943,2 |
| Сродкі праўленьня | 223,0 | 253,8 | 447,1 | 890,0 | 1237,3 | 2272,9 |
| Іншыя пасывы | 13,4 | 22,2 | 23,4 | 91,1 | 103,6 | 582,5 |
| Агульны фонд ДК | — | — | 702,9 | 1974,4 | 1993,9 | 3025,2 |
| Спэцфонды ДК | — | — | — | — | 187,2 | 427,8 |
| Сродкі праўленьня на ДК | — | — | — | 164,4 | 274,8 | 371,8 |
| Балянс | 430,5 | 1039,6 | 1953,6 | 4136,6 | 5157,1 | 8139,8 |

У пасыве балянсу на 1/VII—1929 г. было сродкаў мясцовых каапэрацыйных арганізацый: паявых—562,8 т. р., запасны капітал—325,4 т. р., бягучых рахункаў каапэрацыйных арганізацый—399,0 т. р., спэцфонды ДК—427,8 тыс. руб., а ўсяго—1.715,5 тыс. руб., або 21 проц. да балянсу. Сродкі праўленьня—2.272,9 тыс. руб., або 27,9 проц. да балянсу.

## Лік пайшчыкаў і паявы капітал

Лік пайшчыкаў і паявы капітал канторы па каапэрацыйных сыстэмах на 1/VII—1929 г. такі:

| | Лік пайшчыкаў | Паявы капітал у т.руб. |
|---|---|---|
| **Спажыўсыстэма** | | |
| Саюзы | 5 | 159,0 |
| Спаж. таварыствы | 136 | 81,6 |
| Раб. і тр. каапэрацыі | 13 | 85,2 |
| **Саматужн. прамысл. сыстэма** | 154 | 326,0 |
| Саюзы | 5 | 26,2 |
| Арцелі | 155 | 72,4 |
| Крэд.-прамысл. таварыствы | 62 | 51,3 |
| **Сельска-гаспадарчая каапэрацыя** | 222 | 149,9 |
| Саюзы | 11 | 51,6 |
| Таварыствы | 28 | 9,8 |
| **Іншыя віды каапэрацыі** | 39 | 61,4 |
| Саюзы | 2 | 1,1 |
| Пярвічка | 21 | 13,4 |

У банку раней існавала сыстэма набыцьця паёў арганізацыямі ў залежнасьці ад адчыненых ім крэдытаў. У сучасны момант уведзен прынцып збору паёў на падставе ўнясеньня ў банк каапэрацыйнымі сыстэмамі пэўнага процанту свайго паявога капіталу, незалежна ад разьмеру крэдытаў, якія вызначаны для тэй альбо іншай арганізацыі.

Спажыўсыстэма прыняла адпаведную пастанову і ажыцьцяўляе ў практыцы прынцып уцягваньня ў лік пайшчыкаў банку ўсіх арганізацый сыстэмы і ўзносу ў банк 5 проц. усяго паявога капіталу сыстэмы.

Саматужна-прамысловая сыстэма БССР прынцыпу свайго ўдзелу ў складаньні паявога капіталу ў банку да сучаснага моманту не ўстанавіла.

Збор адлічэньняў у запасныя капіталы арганізацыі на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 23/V 1928 г. кантора пачала ў канцы 1927-28 г. Ад прыбыткаў за 1926-27 г. сабрана 187,6 тыс. руб. Збор адлічэньняў з прыбыткаў арганізацый за 1927-28 г. яшчэ ня скончаны.

Больш пасьпяхова і своечасова адлічэньні ўносяцца сыстэмамі спажывецкай і інваліднай каапэрацыі. Збор адлічэньняў ад першапачатковых зьвенчакоў ажыцьцяўляецца праз саюзы. На 1/VII 1929 г. з агульнай сумы сабраных 325,4 тыс. руб. даводзіцца:

| | |
|---|---|
| Спажывецкай | 212 тыс руб. |
| Інваліднай | 27,9 „ „ |
| Саматужна-прамысловай | 55,6 „ „ |
| Сельска-гаспадарчай | 9,0 „ „ |
| Жыльлёвай | 19,8 „ „ |
| Іншай | 1,1 „ „ |

На 40 проц. сабраных сум банк набывае аблігацыі дзяржаўных пазык.

З сумы бягучых рахункаў на 1/VII 1929 г. на долю каапэрацыі даводзіцца 399,5 т. р., прафсаюзных арганізацый—452,8 т. р. (сродкі прафсаюзных арганізацый прызначаюцца для крэдытаваньня рабочае каапэрацыі) і бягуч. рах. іншых устаноў—90,9 тыс. руб.

У суму сродкаў праўленьня ў 1901,1 т. р. на кароткатэрміновае крэдытаваньне ўваходзяць сумы на камэрцыйны крэдыт для розных сыстэм—1116,2 т. р., на мэтавае крэдытаваньне—784,9 т. р. (загатоўка другараднага экспарту, смалапрадуктаў, сыравіны).

Агульны фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня, згодна палажэньня аб ім, складаецца са зваротаў сум запазычанасьці банку па бюджэтных асыгнаваньнях мінулых гадоў і з асыгнаваньняў па бюджэту на бягучы год.

Спэцфонды доўгатэрміновага крэдытаваньня складаліся на 1 ліпеня 1929 году са ўзносаў каапэрацыйных арганізацый у наступным выглядзе:

| | | У тым ліку адлічэньні ад прыбыткаў 1926-27 г. |
|---|---|---|
| Спажыўсыстэма | 255,3 | 129,1 |
| Сам.-прамысловая | 28,6 | 7,4 |
| Інвалідная | 34,0 | 5,8 |
| Сельска-гаспадарчая | 16,5 | 2,7 |
| Іншая | 7,8 | 20,0 |
| Страх. агэнцтва | 91,6 | 68,0 |
| Усяго | 427,8 | 233,0 |

Сродкі праўленьня на доўгатэрміновае крэдытаваньне складаліся ў 371,8 тыс. руб. з мэтамі: на пабудову хлебазаводаў, баз, крам і інш.

**Актыў балянсу**

| | 1/X-24 г. | 1/X-25 г. | 1/X-26 г. | 1/X-27 г. | 1/X-28 г. | 1/VII-29 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Каса | 35,6 | 64,1 | 211,2 | 75,4 | 36,3 | 56,7 |
| Запазычан. каротк. | 344,6 | 894,5 | 1048,4 | 1835,8 | 3105,5 | 4250,3 |
| Доўгатэрміновая | — | — | 615,9 | 2145,4 | 1839,8 | 3451,0 |
| Інш. актывы | 50,3 | 81,0 | 78,1 | 80,0 | 175,5 | 381,8 |
| | 430,5 | 1039,6 | 1953,6 | 4136,6 | 5157,1 | 8139,8 |

За 3 кварталы апошняга 1928-29 г. запазычанасьць каапэрацыі банку па кароткатэрміновых і доўгатэрміновых крэдытах дае прырост на 55,0 проц., пры гэтым кароткатэрміновая запазычанасьць узрасла на 36,8 проц., а доўгатэрміновая—на 87 проц.

Сродкі кароткатэрміновага крэдытаваньня разьмяркоўваюцца банкам на падставе разрахунку сум, якія належаць кожнай каапэрацыйнай сыстэме.

На 1 ліпеня 1929 г. кароткатэрміновая запазычанасьць разьмяркована паміж сыстэмамі ў наступных разьмерах:

| | Каапэрацыйнае крэдытаваньне | Мэтавае крэдытаваньне | Разам |
|---|---|---|---|
| Спажыўсыстэма | 1831,2 | 545,0 | 2376,2 |
| Сампрамсыстэма | 1234,8 | 133,3 | 1368,1 |
| Сельска-гаспадарчая сыстэма | 214,0 | 86,7 | 300,7 |
| Каап. інвалідаў | 140,8 | — | 140,8 |
| Інш. каап. арганізац. | 36,4 | — | 36,4 |
| Прафсаюзн. арганізац. | 33,1 | — | 33,1 |
| | 3490,3 | 765,0 | 4255,3 |

Запазычанасьць спажыўсыстэмы па каапэрацыйнаму крэдытаваньню нашаму банку на 1 ліпеня 1929 году складае 32 проц. усяе запазычанасьці банкам Беларусі, а сампрамсыстэмы—28 проц. яе запазычанасьці банкам.

Удзельная вага запазычанасьці нашаму банку сампрамсыстэмы да сумы ўсяе запазычанасьці каапэрацыі банку паступова ўзрастае, а таксама павялічваецца і колькасьць каапэрацыйных арганізацый гэтае сыстэмы—пайшчыкаў нашага банку.

| | На 1/X-27 г. | На 1/X-28 г. | На 1/VII-29 г. |
|---|---|---|---|
| Запазычанасьць | 424,3 | 946,6 | 1368,1 |
| Удзельная вага гэтае запазычан. да агульн. запазычанасьці | 21 % | 30% | 32% |
| Лік пайшчыкаў сыстэмы | 90 | 143 | 222 |

З 1 кастрычніка 1928 г. банк вядзе доўгатэрміновае крэдытаваньне. Сродкі агульнага фонду павялічыліся з 1 кастрычніка 1928 г. да 1 ліпеня 1929 г. з 1993,9 т. р. да 3025,2 т. р. Сума спэцфондаў павялічылася з

462,0 тыс. руб. да 799,6 т. р. Увесь фонд ДК павялічыўся з 2455,9 т. р. да 3824,8 т. р.

За 3 кварталы 1928-29 г. выдана каапэрацыі праз АДК:

| | | |
|---|---|---|
| Спажыўсыстэме | 768,0 | тыс. руб. |
| Сельска-гаспадарч. | 498,8 | „ „ |
| Сампрамсыстэме | 375,6 | „ „ |
| Каап. інвалідаў | 64,7 | „ „ |
| „ жыльлёвай | 82,0 | „ „ |
| Усяго | 1789,1 | „ „ |

Запазычанасьць каапэрацыі па АДК складала:

| | На 1/VII-29 г. | На 1/X-28 г. |
|---|---|---|
| | 1839,8 | 3451,0 |
| **У тым ліку** | | |
| Спажыўсыстэма | 1119,6 | 1710,2 |
| Сампрамсыстэма | 468,5 | 688,9 |
| Сельска-гаспадарч. | 229,7 | 851,5 |
| Жыльлёвая | 22,0 | 200,8 |
| Усяго | 1839,8 | 3451,0 |
| **Па крыніцах сродкаў** | | |
| Агульны фонд ДК | 1486,7 | 2741,6 |
| Спэцфонд (мясц.) | 98,3 | 352,6 |
| Сродкі праўленьня | 254,8 | 356,8 |
| Усяго | 1839,8 | 3451,0 |

Па мэтавых прызначэньнях сума 3451,0 т. р. падзяляецца наступным парадкам:

| | |
|---|---|
| На ўзмацненьне зваротных сродкаў каапэрацыйных арганізацый | 1653,6 |
| „ будаўніцтва хлебазаводаў | 615,3 |
| „ „ крам і складаў | 559,9 |
| „ „ сталовых і гарбатняй | 113,0 |
| Мэханізацыя і абсталяваньне арцеляй | 406,9 |
| Жыльлёвае будаўніцтва | 7,8 |
| На ўзмацненьне кваліфікацыі інвалідаў | 65,0 |
| У фонд каапэраваньня беднякоў спажыўсыстэмай | 5,0 |
| На фінансаваньне крэдытных функцый | 24,5 |
| Разам | 3451,0 |

Крэдытныя пляны па кароткатэрміноваму крэдытаваньню выконваліся на працягу апошніх 4 кварталаў з перавышэньнем, што да некаторай ступені зьмякчала фінансавую напружанасьць каапэрацыйных сыстэм у час інтэнсыўнага разьвіцьця іх вытворчасьці і гандлёвай дзейнасьці.

| ПЭРЫОДЫ | Вызначана па пляну | Выканана (факт. запазыч.) | У проц. па пляну | Выканана |
|---|---|---|---|---|
| 1-шы квартал | 3265 | 3760 | 100 | 115 |
| 2-гі „ | 3520 | 3904 | 100 | 111 |
| 3-ці „ | 3570 | 4255 | 100 | 119 |

Плян доўгатэрміновага крэдытаваньня на 1928-29 год у параўнаньні з плянам, які зацьверджаны Дзяржплянам, таксама выкананы з перавышэньнем.

Трэба адзначыць тое, што яшчэ не наладжана ў дастатковай ступені плянаваньне доўгатэрміновага крэдытаваньня і ажыцьцяўленьне фактычнага кантролю за скарыстаньнем сродкаў з боку каапэрацыйных цэнтраў, асабліва з боку Белкустпрамсаюзу, што аціжарвае справу доўгатэрміновага крэдытаваньня.

На працягу 1928-29 г. к-ра заключыла карэспандэнцкія дагаворы с крэд.-прам. т-вамі акруговых гарадоў. Гэтыя дагаворы зьвязалі т-вы с нашай к-рай і з філіаламі банку ў другіх месцах і значна садзейнічалі павялічэньню сродкаў т-вау, увязцы іх дзейнасьці з арцелямі кустпрамсыстэмы і паляпшэньню іх працы. Акрамя камісійных і пераводных даручэньняў, банк ажыцьцяўляе праз крэд.-прам. т-вы крэдытаваньне арцеляй па акругах.

Зварот 7 т-ваў па камісійна-пераводных апэрацыях з банкам за кастрычнік-верасень 1928-29 г. складаў 1.700 тыс. руб.

Разьмеры процантаў па актыўных кароткатэрміновых апэрацыях па вучоту вэксалёў — 8, па спэцрахунках і мэтавых крэдытах—9, для будаўнічых арганізацый—7 проц. Тэрміны крэдытаваньня адпавядаюць тэрмінам вытворчага і таварнага звароту па мэтавых крэдытах і срокам вэксалёў па камэрцыйна-вэксальнаму крэдыту.

Разьмеры процантаў па доўгатэрміноваму крэдытаваньню бываюць ад 2 да 6 гадавых, па спэцфондах—у залежнасьці ад мэтавага прызначэньня крэдыту і 4 проц. па агульнаму фонду, згодна дагавору з НКФ БССР.

Тэрмін доўгатэрміновых крэдытаў устанаўляецца ў залежнасьці ад мэтавага прызначэньня іх.

Трэба адзначыць працу банку па фондах і па падпісцы на пазыку індустрыялізацыі. Па падпісцы на 2-ю пазыку індустрыялізацыі к-ра стаіць на 1-м месцы пасьля Дзяржбанку, па 3-й пазыцы індустрыялізацыі к-ра атрымала падпіскі на 132,8 тыс. руб.

Выдаткі к-ры складалі ў 27-28 г. 41.000 руб., альбо 0,87 проц. да крэдытнага актыву, а за 28-29 г.—43.400 руб., альбо 0,63 проц. да прадукцыйнага актыву.

Штаты банку складаюць 24 чалавекі, з іх 7 камуністаў і 3 камсамольцы. У ліку супрацоўнікаў 3 рабочыя—вылучэнцы.

Кантрольныя лічбы па к-ры на 1929-30 г. прадугледжаны з прыростам пасываў на 55,8 проц. (8.000 тыс. руб.—13.400 т. руб.).

## Касава-разьліковыя апэрацыі каапэрацыйнае арганізацыі.

Па гэтай апэрацыі, якая мае вялікае значэньне з пункту погляду найбольш эфэктыўнай акумуляцыі і скарыстоўваньня сродкаў арганізацыі, к-ра покуль што зрабіла толькі пачатковыя спробы ў выглядзе арганізацыі большай часткі касава-разьліковых апэрацый МЦРК, атрыманьня касавае выручкі некаторых с. т. Менскага раёну, наладжваньня часткі разьлікаў паміж арганізацыямі.

У сучасны момант на дасягнутым ўзроўні абагуленьня рынку і ўзмацненьня каапэрацыйнае сыстэмы гаспадаркі ставіцца і вырашаецца пытаньне аб зьмене існуючых мэтадаў і практыкі крэдытаваньня тавараабароту аб найбольш поўным абслугоўваньні банкам касава-разьліковых апэрацый каапэрацыйных сыстэм.

Спажыўсыстэма на спэцыяльнай усесаюзнай нарадзе пры Цэнтрасаюзе прапрацоўвала формы крэдытаваньня тавараабароту на наступных асновах:

1. Крэдытаваньне тавараабароту спажыўсыстэмы вядзецца за рахунак таварных крэдытаў прамысловасьці, адзінага ліміту Дзяржбанку і каап. банку і крэдытных фондаў з уласных сродкаў каапэрацыі.

2. Крэдытаваньне плянавых нарыхтовак вядзецца шляхам адчыненьня банкамі мэтавых крэдытаў, якія асыгноўваюцца па цэнтралізаваных плянах каапэрацыйных цэнтраў непасрэдна падрыхтоўчым саюзам і ЦРК.

3. Крэдытаваньне каапэрацыйнага тавараабароту вядзецца па крэдытных лімітах, якія вызначаюцца вышэйстаячымі каапэрацыйнымі арганізацыямі, згодна грашова-апэрацыйных плянаў. Патрэбныя крэдыты для выкананьня грашова-апэрацыйных плянаў вылучаюцца з агульнага цэнтралізаванага фонду ўсяе сыстэмы. Апошні-ж складаецца з крэдытаў прамысловасьці, крэдытаў банкаў і крэдытных фондаў Цэнтрасаюзу.

4. Ва ўзаемаадносінах паміж сампрамсыстэмай і спажывецкай сыстэмай ажыцьцяўляецца спроба пераходу на наяўныя і ліквідацыю таварных крэдытаў з тым, каб крэдыты, якія маюцца для сампрамсыстэмы, былі перададзены спажыўсыстэме.

5. Таварны крэдыт паміж зьвенчакамі сыстэмы павінен, як правіла, заставацца, пры чым у меру ўзмацненьня грашовага становішча тэй ці іншай арганізацыі крэдыты яе паступова памяншаюцца, а вызваляемыя сродкі накіроўваюцца на дапамогу больш слабым арганізацыям сыстэмы. Адносна сельскіх спажыв. т-ваў прымаецца курс на магчымы перавод іх на наяўны разрахунак.

6. Фінансаваньне таварных рэзэрваў павінна адбывацца за рахунак спэцыяльных мэтавых крэдытаў.

7. Крэдытаваньне нарыхтовак каапэрацыі, як правіла, ня ідзе ніжэй саюзнага зьвенчаку, дзе сустракаюцца разрахункі з нізоўкаю па нарыхтоўках і таваразабесьпячэньню.

8. Спрашчэньне тэхнікі разрахунковых апэрацый ідзе па лініі:

а) зьнішчэньня вэксальнай эмісіі і пераходу на адчыненыя разрахункі як паміж пакупнікамі і пастаўнікамі—сындыкатамі, так і ўнутры сыстэмы (акрамя часткі спажыв. т-ваў, для якіх застаецца вэксальны крэдыт);

б) перанясеньня разрахунковых апэрацый з каапэрацыйных арганізацый у каапэрацыйныя банкі.

9. Авансавыя вэксалі і авансы пастаўнікоў ліквідуюцца.

10. Крэдыты банку адчыняюцца пад кантакарэнты з забясьпечаньнем плацяжоў прад'яўніцкімі вэксалямі.

11. Ажыцьцяўленьне новых мэтадаў крэдытаваньня магчыма толькі на падставе арганічна-зьвязанага банкаўскага і каапэрацыйнага апарату, шляхам арганізацыі пры каапэрацыйных банках сэкцый спажыўсыстэмы, якія-б забясьпечвалі ўзгадненьне крэдытаваньня ўсіх зьвенчакоў каапэрацыі з гаспадарча-грашовымі плянамі ўсяе сыстэмы, і арганізацыі каапэрацыйнымі банкамі разрахунковых кас і пунктаў пры спажыўсаюзах і ЦРК.

12. Разрахунковыя касы пры саюзах і ЦРК замяняюць касавы і большую частку бухгальтарскага апарату арганізацыі, арганізуючы грашова-разрахунковую справу на банкаўскіх асновах.

13. На фінансавыя апараты каапэрацыйных саюзаў ускладаецца праца па плянаваньню і кіраўніцтву грашовай справай арганізацыі і кантролю за выкананьнем грашовага пляну; тэхнічная-ж частка праводзіцца праз банк.

Паказаныя вышэй асновы павінны ўнесьці большую рацыяналізацыю ў грашовую гаспадарку каапэрацыі без павялічэньня выдаткаў, а з павялічэньнем эфэктыўнасьці зваротных сродкаў каапэрацыі і плянавасьці яе працы

Разам з арганізацыяй разрахунковых кас пры арганізацыях спажыўсыстэмы мэтазгодна вырашаць пытаньні аб наданьні крэдытных функцый саюзам вытворчай сыстэмы (сампрам. каап., сельска-гаспадарчай і г. д.), і тады сыстэма каапэрацыйнага крэдыту была-б дастаткова ўзмоцнена для абслугоўваньня свайго каапэрацыйнага звароту на рацыянальных асновах і пераважна сваімі сродкамі, усё больш палягчаючы эмісію і бюджэт.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

П. Рубін

## Пра справаздачна-перавыбарчую кампанію рабочай каапэрацыі

У гэтым годзе справаздачна-перавыбарчая кампанія адбывалася па ўсіх 12 ЦРК і гарадзкіх спажывецкіх таварыствах, якія а'бяднаюцца Белрабсэкцыяй, а перавыбары праўленьня і рэвізійных камісій толькі па 10 арганізацыях.

Падрыхтоўчая праца на месцах у гэтым годзе была праведзена стала, з вялікім уцягненьнем у яе каапэрацыйнага актыву. Матар'ял падрыхтоўкі прапрацоўваўся на каапэрацыйным актыве і на нарадах розных грамадзкіх арганізацый, а ў некаторых гарадох былі створаны спэцыяльныя выбарчыя камісіі. Плян перавыбараў і інструкцыі папярэдня абгаварваліся на аргсэкцыі ўпаўнаважаных, а потым—на пашыраных сходах упаўнаважаных разам з каапэрацыйным прафактывам.

Мясцовыя арганізацыі ўвесь час аддавалі належную ўвагу і дапамагалі правядзеньню перавыбарчай кампаніі. Адпаведныя дырэктывы да нізавых праф'ячэек былі дадзены акрпрафсаветамі і акруговымі аддзяленьнямі саюзаў.

Пры агульнай характарыстыцы ходу справаздачна-перавыбарчай кампаніі трэба мець на ўвазе, што за пэрыод паміж мінулай кампаніяй і сучаснымі перавыбарамі ў шэрагі рабочае каапэрацыі Беларусі ўлілося 79 тысяч новых пайшчыкаў, альбо 72,6 проц. папярэдняга складу. Галоўная маса з нанова ўступіўшых у ЦРК пайшчыкаў—гэта адсталыя групы членаў прафсаюзаў, неарганізаванае насельніцтва і другія члены сямей. Усё гэта такія групы, сярод якіх найбольш цяжка праводзіць грамадзкамасавую працу, што, напэўна, мела свой адбітак на ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Тым ня менш за кампанію агульная колькасьць пайшчыкаў, якія былі не ахоплены сходамі, была некалькі меншай, чым у мінулую кампанію: 19,9 проц. супроць 20,4 проц.

Агульны процант наведаваньня справаздачна-перавыбарчых сходаў паказвае ў гэтым годзе некаторае нязначнае зьніжэньне супроць папярэдняга году. Агульная колькасьць справаздачна-перавыбарчых сходаў у гэтым годзе больш, чым у мінулым годзе, на 17,8 проц.

Узросшая актыўнасьць пайшчыкаў супроць папярэдняга году выказваецца ў меншай колькасьці сарваных сходаў і ў большым ліку зададзеных пытаньняў і выступленьняў у спрэчках.

Прыкметна павялічыўся процант удзелу на сходах жанчын. На некаторыя сходы пайшчыкі прыходзілі разам з іх утрыманцамі. Лік справаздачных дакладаў рэвізійных камісій, упаўнаважаных і крамавых камісій ў гэтым годзе значна больш, чым у мінулым, што сьведчыць аб якасным росьце нашага каапэрацыйнага актыву і больш інтэнсыўным уцягненьні яго ў працу ЦРК.

Пры праяўленьні пэўнага інтарэсу і дастатковага садзейнічаньня з боку цэнтру прафсаюзных арганізацый вызначаецца па шэрагу ЦРК недастатковы ўдзел некаторых нізавых ячэек, ня гледзячы на дадзеныя дырэктывы.

Кандыдатуры ўпаўнаважаных і членаў крамавых камісій амаль усюды да выбараў раней абгаварваліся на партыйных ячэйках, прафарганізацыях і каапэрацыйным актыве. Справаздачна-перавыбарчая кампанія праходзіла пад знакам растлумачэньня прычын цяжкасьцяй, якія мы перажываем, пэрспэктыў і задач нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Гэты момант быў у агульным усьвядомлены масамі пайшчыкаў. Пытаньне аб неабходнасьці мабілізацыі энэргіі мас на перамогу гэтых цяжкасьцяй ставілася з усёй яскравасьцю. Па некаторых калектывах папярэдне праводзілася растлумачэньне прычын нашых цяжкасьцяй з абгаварэньнем гэтага ў адпаведных артыкулах па насьценгазэтах.

Пытаньні і спрэчкі з боку пайшчыкаў на справаздачных сходах у агульным паказалі іх сьвядомы і дзелавы падыход да ацэнкі пэрыоду, які перажывае дзейнасьць ЦРК.

Агульны зьмест пытаньняў і спрэчак па ўсіх ЦРК ахапіў найбольш справы забесьпячэньня і якасьць абслугоўваньня, пытаньні апарату, культасьветпрацы і працы каапэрацыйнага актыву. Шэраг пытаньняў і выступленьняў датыкаліся да момантаў адсутнасьці тых альбо іншых тавараў і прадуктаў. У вялізарнай меры займалі ўвагу пытаньні якасьці тавараў. Больш за усё гаварылі аб дрэннай якасьці хлеба, потым аб нездавальняючай якасьці абутку, гатовага адзеньня, мэблі, дроў, бульбы, сыру, каўбасы, сала, мяса і інш. Надзвычайна вялікае месца ў спрэчках займалі пытаньні барацьбы з чаргамі, удасканаленьне тэхнікі гандлю, паляпшэньне ўзаемаадносін паміж пакупнікамі і прадаўцамі і барацьбе са злоўжываньнямі і растратамі. У выступленьнях пайшчыкаў было многа дзелавых прапаноў у галіне паляпшэньня абслугоўваньня спажыўцоў і сыстэме разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў.

Агульны лік каапэрацыйнага актыву дае ў гэтым годзе некаторае павялічэньне супроць папярэдняга году. У параўнаньні-ж яго ў дачыненьні да пайшчыкаў заўважаецца зьмяншэньне, што тлумачыцца імкненьнем ЦРК лепш ахапіць працу актывам і больш плянава і рэгулярна кіраваць імі. Агульны лік упаўнаважаных і членаў крамавых камісій папярэдняга складу быў у 3510 чалавек, ці па аднаму актывістаму на 40,5 пайшчыкаў, а лік актыву новага складу роўны 3822, ці па 1 актывістаму на 54 пайшчыкі. Сацыяльны і партыйны склад упаўнаважаных палепшыўся, што выказалася ў росьце ўдзельнае вагі рабочых з 51,4 проц. да 53,6 проц. і членаў КП(б)Б з 35,9 проц. да 39,4 проц. Адваротны малюнак даюць перавыбары крамавых камісій, дзе мы маем зьніжэньне ўдзельнае вагі рабочых, членаў і кандыдатаў КП(б)Б. Удзельная вага жанчын і хатніх гаспадынь значна вырасла як у складзе упаўнаважаных, так і ў складзе крамавых камісій.

Высоўваньне моладзі ў каапэрацыйны актыў павялічылася толькі пры перавыбарах крамавых камісій, дзе яе ўдзельная вага вырасла з 16,5 проц. да 20 проц. Удзельная вага членаў КСМ засталася бяз зьмен.

Да часу перавыбараў яшчэ ня было пагоджана новае палажэньне аб каапэрацыйным бюро. У сувязі з гэтым па большасьці гарадоў былі абраны каапэрацыйна-крамавыя камісіі. Каапэрацыйныя бюро абраны толькі па Віцебску і Бабруйску. Па шэрагу ЦРК перавыбары ўпаўнаважаных і крамавых камісій адбываліся ў розны час.

Склад праўленьняў і рэвізійных камісій ў гэтым годзе пашыраны і значна аднаўлены. Месца рабочых, членаў і кандыдатаў КП(б)Б павялічылася ў складзе праўленьняў і рэвізійных камісій абсалютна і адносна. Павялічылася ўдзельная вага жанчын у складзе праўленьняў і зьменшылася ў складзе рэвізійных камісій.

Каб падаць сьвядомы падыход і дзелавітасьць пры абгаварэньні справаздач ЦРК, мы прыводзім найбольш характэрныя пытаньні ў выступленьнях у часе спрэчак.

Гэтыя спрэчкі выказвалі, што: маюць месца выпадкі неаднолькавых цэн на адзін і той-жа тавар у розных крамах ЦРК; вялікая кваснасьць хлеба тлумачыцца тым, што ён квасіцца не на сьвежай вадзе; адсутнасьць крам ЦРК у некаторых раёнах прымушае зьвяртацца да прыватніка; нероўнамернае разьмеркаваньне тавараў па крамах і несваячасовая дастаўка хлеба ў магазыны павялічвае чаргі; прадаўцы бяруць сабе дэфіцытны тавар бяз нормы і да таго самы лепшы і танны; бываюць дрэнныя адносіны да спажыўцоў; заўважваюцца факты хуліганства з боку пайшчыкаў; сярод працаўнікоў ЦРК шмат чужых элемэнтаў; нядбайныя адносіны прадаўцоў да тавараў: газа і мяса адпушчаюцца аднымі рукамі; некаторыя прадаўцы абманьваюць у вазе асабліва сялян; афіцыянты адносяцца да наведвальнікаў па іх вопратцы.

Наогул справаздачы ЦРК былі шырока абгавораны масамі пайшчыкаў.

---

З. Кацнэльсон

# Аб агнятрывалых таварыствах

*(Магілеўшчына)*

У забесьпячэньні будаўнічымі матар'яламі на Магілеўшчыне адчуваецца ў апошні час крызіс. Не хапае лесаматар'ялаў (цэглы, бэтонных вырабаў, вапны і інш).

Існуючыя і што нанова адбудоўваюцца дзяржаўныя цагляныя заводы поўнасьцю не здавальняюць попыт разгортваючагася будаўніцтва прамысловасьці, транспарту, школ, больніц, жылбудаўніцтва і вясковага будаўніцтва, што прыводзіць да перабояў, падаражэньня матар'ялаў і наогул будаўніцтва.

Значнае садзейнічаньне ў вырашэньні крызісу ў будаўнічых матар'ялах можа аказаць і аказвае саматужная вытворчасьць агнятрывалых матар'ялаў і іншых будаўнічых матар'ялаў.

Гэта магчыма дзякуючы прыродным і эканамічным умовам акругі, у якой амаль усюды існуюць залежы добраякаснай цагляной, ганчарнай і кахальнай гліны, гравія а ў паўднёва-усходняй частцы акругі (у б Калініншчыне) крэйды, вапнянага камню і, нават, гліны і мэргелю для цэмэнту.

Распалажэньне акругі ў басэйне верхняга Дняпра і яго прытокаў, як Сож, Друць, судаходных амаль на ўсім працягу, у далінах якіх і распаложаны выкапні,—утварае прыемныя ўмовы для таннай транспартыроўкі водным шляхам буд. матар'ялаў ня толькі ў межах акругі, але і за імі.

Саматужны выраб агнятрывалых буд. матар'ялаў у акрузе разьвіваецца так: па даных перапісу 1926 г. у акрузе налічвалася саматужнікаў 421 чал., а на 1/X—1929 г.—каля 650 чал. толькі па лініі с.-г. і саматужна-прамысловай каапэрацыі, апроч адзінак.

Ня гледзячы на колькасны рост саматужнай вытворчасьці буд. матар'ялаў і пераважнасьць ў ёй каапэрацыі—якасны яе эфэкт зусім недастатковы, дзякуючы адсутнасьці арганізацыйнага і плянавага кіраўніцтва каапэрацыйнымі т-вамі і арцелямі.

У сучасны момант па акрузе ёсьць каля 50 т-ваў і арцеляй агнятрывалага будаўніцтва, з іх 35 т-ваў і 15 цареляй. Аб'ектаў працы ў іх шмат: выраб бэтонных кольцаў, цэглы, ганчарнай пасуды і чарапіцы, глінянай цэглы, вапны, пабудова бэтонных калодзежаў і вясковых будынкаў агнятрывалага тыпу.

Ня гледзячы на вялікую колькасьць арганізацый, занятых у іх асоб (650)

і шматлікасьць аб‘ектаў іх дзейнасьці, апошнія мала чаго зрабілі сваёй працай для разьвязваньня крызісу ў буд. матар‘ялах, наладжваньні вытворчасьці ў сэнсе значнага выпуску прадукцыі, зьніжэньня цэн, якія даходзяць у раёнах да 60-70 руб. за тысячу цэглы.

У працягу апошніх 3 год арганізавана 35 т-ваў, якія ўвайшлі ў склад сельгас. саюзу. Прамсаюзам арганізавана толькі ў гэтым годзе 13 новых арцеляй (усяго аб‘яднае 15). Тэхнічным кіраўніцтвам займалася Акрза, праз якое т-ва і арцелі атрымлівалі крэдыты і цэмэнт.

Як дагэтуль абстаіць абслугоўваньне нізавое сеткі?

У той час, як Прамсаюз арганізаваў у гэтым годзе больш дзесятку арцеляй, забясьпечыўшы іх крэдытам і абсталяваньнем, утварыўшы нагляд і сувязь з імі праз інструктароў і крэд. прам. т-вы на месцах,—Сельгассаюз зусім не абслугоўваў у працягу 3 гадоў сетку агнятрывалых т-ваў.

Апошні вёў у сябе толькі сьпісы т-ваў, чым, па пераважнасьці, і абмяжоўваўся, ня ведаючы, што зрабіць з імі.

Некалькі фактаў паказваюць, як абслугоўвалася сетка агнятрывалых т-ваў.

Пры праверцы сьпісу т-ваў аказалася, што т-ва „Адраджэньне“, у 2 кілём. ад Магілеву, арганізаванае ў 1926 г., лічылася ў сьпісе да верасьня 1929 г., ня гледзячы на тое, што яно з самай арганізацыі не распачало працы і зараз-жа распалася.

Існуючае ўжо 3 гады ў Карме раённае т-ва мае дэфіцыт у 2000 р., мала парадку і ні разу ня бачыла інструктара с.-гас. саюзу.

У большасьці т-ваў рахункаводзтва існуе толькі ва ўсьведамленьні альбо вядзецца ў сшытку сэкратара, ёсьць выпадкі растрат (Ліцьвінавіцкае т-ва). Вынікам гэтага абслугоўваньня было тое, што т-вы, нададзеныя самім сабе, вялі працу, як хто разумеў, без кіраўніцтва.

У гэтай справе ня так вінаваты мясцовыя органы і сетка, як цэнтр. Ужо два гады вядзецца гутарка аб тым, каму перадаць кіраўніцтва агнятрывалым промыслам і яго абслугоўваньне: с.-г. або сам.-прам. каапэрацыі. Пакуль „цэнтры“ вялі перамовы (у тым ліку НКЗем) і меркавалі гэтае пытаньне, праца на месцах стаяла бяз руху, у чаканьні вырашэньня пытаньня што напамінае байку Крылова „Лебедзь, рак да шчука“.

У чэрвені м-цы 1929 г. Магпрамсаюз атрымаў загад ад ВКПС аб прыняцьці ад с.-г. каапэрацыі ўсіх агнятрывалых т-ваў. Ён прыняў усе іх справы і прыступіў да працы па пераводу іх на статут прам. каапэрацыі і арганізацыі іх абслугоўваньня. Але выявілася, што хоць пытаньне і вырашана цэнтрам, дык яно яшчэ ня вырашана Акрза, які забараніў т-вам пераход у прам. каапэрацыю. У выніку чаго работа зноў застыгла. Гэта ставіць становішча агнятрывалых т-ваў у пэрманэнтную „праблему“, затрымлівае аздараўленьне іх працы і зрывае работу па падрыхтоўцы да будучага сэзону вытворчасьці буд. матар‘ялаў. Акрза сваё затрымліваньне матывіруе тым, што пераход у прам. каапэрацыю агнятрывалых т-ваў адмоўна адаб‘ецца на вытворчым каапэраваньні сялян.

Становішча агнятрывалага промыслу ў сучасным выглядзе не павінна працягвацца больш. Для таго, каб сваячасова падрыхтавацца да будаўнічага сэзону і разьвязаньня наогул вытворчых магчымасьцяй сыстэмы неабходна ў найкарацейшы тэрмін пытаньне вырашыць канчаткова.

Пры яго вырашэньні неабходна, для правільнага разьмежаваньня функцый прамысловай с.-гаспадарчай каапэрацыі ў галіне агнятрывалага промыслу выходзіць з наступнай прынцыповай ўстаноўкі.

С.-гас. каапэрацыя, у мэтах садзейнічаньня масавому вытворчаму каапэраваньню сялян, пакідае пры сабе толькі тыя т-вы, якія маюць значэньне для падвышэньня культурна-тэхнічнага ўзроўню сельскае гаспадаркі, якія зьяўляюцца сродкам масавага каапэраваньня сялян у вытворчыя аб‘яднаньні, абслугоўваючыя

пайнікаў (каапэрацыйная пабудова будынкаў агнятрывалага тыпу, бэтонных калодзежаў і выраб матар‘ялаў для гэтага). Усе-ж астатнія т-вы, мэтай дзейнасьці якіх зьяўляецца таварная вытворчасьць будаўнічых матар‘ялаў і іншых керамічных вырабаў для рынку, зьяўляюцца па сваёй структуры прамысловымі аб‘яднаньнямі і павінны ўвайсьці ў сыстэму прамкаапэрацыі і адпаведным чынам рэарганізавацца. У гэтым трэба згадзіцца з выказанай думкай тав. Дубіны (гл. артыкул у „Каапэрацыі БССР“ № 10).

Пры пераходзе агнятрывалага промыслу да прам. каапэрацыі сваячасова, апошняя павінна, шляхам рэарганізацыі т-ваў і аздараўленьня іх працы, правільна пабудаваць сетку акругі і ўвесьці адзінае кіраўніцтва і мэтады працы. Гэта павінна адбіцца на вытворчасьці нізоўкі ў бок нармальнага забесьпячэньня сыравінай, апалам і крэдытам, максымальнага выпуску прадукцыі, у адпаведнасьці з вытворчымі магчымасьцямі, устанаўленьнем стандартаў будаўнічых матар‘ялаў, урэгуляваньнем цэн, шляхам рэалізацыі вырабаў праз саюз і плянавага разьмеркаваньня буд. матар‘ялаў, згодна заявак будаўнічых арганізацый.

Для правільнага кіраўніцтва вытворчасьцю арцеляй неабходна мець спэцыяльных вытворчых інструктароў па промыслу будаўнічых матар‘ялаў.

---

А. Лебедзеў

# За лепшыя кравецкія вырабы

Рэалізацыя сыстэмай спажыўкаапэрацыі БССР гатовага адзеньня за 1928-29 гаспадарчы год складае 7.770 тысяч рублёў.

У агульным звароце па рэалізацыі гатовага адзеньня гарадзкая сетка ЦРК займае 83 проц. і вясковая—17 проц.

Паказаныя даныя сьведчаць аб тым, што спажыўтаварыствы ў працу з гатовым адзеньнем да гэтага часу мала ўцягнуты.

Кантрольныя лічбы на 1929-30 год прадугледжваюць рэалізацыю гатовага адзеньня на 21.000 тысячу рублёў, што павінна даць павялічэньне зваротаў супроць мінулага 1928-29 гаспадарчага году на 170 проц. Удзельная вага гарадзкога сэктару на будучы год вызначаецца ў 64 проц. і вясковага—36 проц.

Гэты значны процант росту агульнага звароту па рэалізацыі гатовага адзеньня ўскладае адказнасьць як на гарадзкі, так і на вясковы сэктар спажыўсыстэмы.

У мэтах забесьпячэньня поўнага выкананьня вызначаных кантрольных лічбаў, спажыўсыстэма павінна больш зьвярнуць увагу на вывучэньне попыту насельніцтва, укамплектаваць свой штат адпаведнымі спэцыялістымі і прыстасаваць памяшканьне пад гандаль гатовым адзеньнем.

Гандлёвая нарада, якая адбылася з 30/IX—3/X г. г. пры Белкаапсаюзе, адзначыла, што каапэрацыйныя арганізацыі не рэагавалі сваячасова на дрэнную якасьць тавараў. Работнікі прылаўку каапэратываў не зразумелі ўсяе важнасьці барацьбы за паляпшэньне якасьці і асартымэнту тавараў, якія паступае ад прамысловасьці.

Як на асноўнае мерапрыемства ў барацьбе за паляпшэньне якасьці і асартымэнту, гандлёвая нарада ў сваёй пастанове адзначыла на арганізацыю кантрольна-асартымэнтных пунктаў спажыўкаапэрацыі, на вывучэньне попыту насельніцтва на вырабы кравецкай прамысловасьці.

Зьяўляючыся асноўным праваднікам прадукцыі кравецкай прамысловасьці, спажыўкаапэрацыя павінна прымаць удзел ва ўзгадненьні вытворчых праграм прамысловасьці. Такім чынам, сувязь прамысловасьці з рынкам будзе ажыцьцяўляцца ў асноўным праз апарат спажыўсыстэмы. Пры

дапамозе спажыўсыстэмы кравецкая прамысловасьць павінна вырашыць пытаньне аб выпуску на рынак таго альбо іншага асартымэнту свае прадукцыі.

Асартымэнт кравецкіх вырабаў вельмі складаны, пры чым попыт на асобныя рэчы залежыць ад сэзонных пэрыодаў, пагэтаму вывучэньне патрэбнага спажыўцу асартымэнту, фасону, колеру, разьмераў і якасьці вырабаў павінна мець сталы і сыстэматычны характар.

У адпаведнасьці з вышэйпаданым, гандлёвая нарада на першы час вызначыла кантрольна-асартымэнтныя пункты па вывучэньню попыту насельніцтва на вырабы кравецкай прамысловасьці ў наступных месцах: па гарадох—Менск, Гомель, Віцебск; на вёсцы—м. Койданава, Менскай акругі, м. Брагін Гомельскай акругі, м. Ліозно і Гарадок, Віцебскай акругі, м. Быхаў, Магілеўскай акругі, і Рагачэў, Бабруйскай акругі.

Колькасьць пунктаў на першы час устаноўлена мінімальная, і вызначаны яны з такім разьлікам, каб на падставе матар'ялаў магчыма было скласьці характарыстыку попыту ўсіх раёнаў БССР. Бязумоўна, у інтарэсах справы для працы кантрольна-асартымэнтных пунктаў павінны быць створаны адпаведныя ўмовы ў справе арганізацыі і кіраваньня.

Толькі пры правядзеньні шэрагу канкрэтных практычных мерапрыемстваў па палепшэньню якасьці і асартымэнту гатовага адзеньня, а таксама працы з гэтым таварам, мы можам быць упэўнены ў поўным выкананьні кантрольных лічбаў на 1929-30 год.

---

Карповіч

# Аб страхаваньні маемасьці

Згодна пастановы ЦВК і СНК СССР уся маемасьць усіх каапэрацыйных арганізацый падлягае абавязкова му страхаваньню ў Каапстрахсаюзе.

Страхаваньню падлягаюць у поўнай іх каштоўнасьці будынкі, сельска-гаспадарчы інвэнтар, тавары, матар'ялы, ураджай, прамысловыя прадпрыемствы і іх абсталяваньне, сельска-гаспадарчая жывёла (коні, буйная рагатая жывёла, авечкі і сьвіньні, усе ад 6 месяцаў) і інш.

У верасьні месяцы ўсім нізавым каапэрацыйным арганізацыям, апрача спажывецкае сыстэмы, былі разасланы вучотныя карткі па страхаваньню і інструкцыі для іх запаўненьня. Гэтыя карткі, запоўненыя зьвесткамі аб каштоўнасьці наяўнасьці на 1-е кастрычніка па ўсёй маемасьці каапэрацыйнай арганізацыі, павінны быць зьвернуты Беларускаму каапэрацыйнаму страхавому агэнцтву (гор. Менск, Савецкая, 43) альбо яго філіалам пры акрсельсаюзах.

Да гэтага часу вельмі мала каапэрацыйных арганізацый зьвярнулі гэтыя карткі. Гэта гаворыць аб зусім недапушчальных адносінах кіруючых органаў некаторых каапэрацыйных арганізацый да пастаноў улады па страхаваньню аграмаджанае маемасьці.

Трэба зараз-жа запоўніць атрыманыя карткі і даслаць, а ў выпадку, калі гэтых картак няма,—зьвярнуцца да сваіх саюзаў.

Апрача таго, кожная нізавая каапэрацыйная арганізацыя павінна не пазьней 15-га лістапада ўнесьці Беларускаму каапэрацыйнаму страхавому агэнцтву ці яго філіалам авансы ў рахунак належачае прэміі па 25 кап. з кожнае сотні рублёў каштоўнасьці маемасьці, бо ў другім выпадку будзе налічвацца пеня.

Трэба сказаць, што гэта тычыцца ўсіх каапэрацыйных арганізацый, нават і тых, маемасьць якіх да 1-га кастрычніка была застрахавана па добраахвотнаму страхаваньню ў Каапстрахсаюзе альбо ў Дзяржстраху.

Страхаваньне маемасьці каапэрацыйных арганізацый, якія былі закончаны ў Дзяржстраху і час якім ня сышоў да 1-га кастрычніка г. г., з гэтага-ж часу зьнішчаны, а належная страхавацелям прэмія за нясышоўшы час будзе зьвернута.

# НА МЕСЦАХ

Рэзкі

## Аб некаторых прынцыповых пытаньнях

*(Як быць з вясковымі арцелямі)*

Палітыка партыі на вёсцы яскрава выказана ў апошніх пастановах пленумаў—садзейнічаньне калектывізацыі бядняцка-серадняцкай групы па лініі арганізацыі калгасаў, камун, арцеляй і г. д. Але тут паўстае пытаньне, як-жа быць з арцельным сэктарам на вёсцы.

Калі возьмем арцелі, якія ёсьць цяпер на вёсцы і якія працуюць на дэфіцытнай і бездэфіцытнай сыравіне, дык у іх, апрача кулацкага элемэнту, які цяпер выключаецца з арцеляй, налічваецца да 70—80 проц. сераднякоў, што могуць пражыць цалкам на сваёй гаспадарцы, але ідуць у арцель з мэтаю збагачэньня. Беднякоў-жа ў арцелях усяго каля 10—15 проц. Гэта відаць і на практыцы. У Вішанкаўскай дрэваапрацовачнай арцелі, Чэрвенскага раёну, сябры арцелі, якія да паступленьня былі маламоцнымі сераднякамі, працуючы ўжо па тры і больш год, грошы, якія зарабляюць у арцелі штомесяц (70—60 руб.), аддаюць на пашырэньне гаспадаркі. Некаторыя з іх пабудавалі па 2—3 хаты, набылі велёсыпэды, машыны; яны ўжо лічаць для сябе нават брыдкім займацца сельскаю гаспадаркаю і наймаюць людзей для апрацоўкі зямлі.

Гэта ўсё, бясспрэчна, не дапамагае падвышэньню аўтарытэту каапэраваньня бядняцка-батрацкага вясковага насельніцтва. У вёсцы Трастынцах, Самахвалавіцкага раёну, у 15 вярстах ад Менску, шавецкая арцель прыняла кулака (Буцэвіча), які плоціць 110 р. падатку, і сераднякоў Юхневіча і Хмыза, якія жывуць заможна. Насельніцтва і гаворыць: „Мала яшчэ кулакоў, дык іх у арцелях дарабляюць“. Усю крамніну і іншыя дэфіцытныя тавары забіраюць гэтыя арцельшчыкі, бо яны заўсёды маюць грошы.

Тое самае мы маем у смалакурных арцелях. Да гэтага часу адпаведныя дырэктыўныя органы ня вырашылі пытаньня, як быць з тымі смалакурамі-адзінкамі, якія ня маюць права голасу, і прадукцыя якіх зьяўляецца вельмі патрэбнаю: якім чынам іх каапэраваць, і, наогул, ці патрэбна іх каапэраваньне. У некаторых арцелях гэтых адзінак каапэравалі, калі ўся маемасьць смалакура *перадаецца* па ацэнцы ў арцель з тым, каб праз 2 ці 3 гады выплаціць яе за лік прыбыткаў арцелі.

Па ўсіх гэтых пытаньнях да гэтага часу няма вырашэньня. Пажадана ў такіх арцелях правесьці і калектывізацыю зямлі, якой карыстаюцца сяляне—сябры арцелі. Гэтае пытаньне ўжо пастаўлена шырока.

### Ці выдаваць пазыкі не саматужнікам

Некаторыя крэдытна-прамысловыя таварыствы ў мінулую перавыбарчую кампанію ў сувязі з выяўленьнем правага ўхілу ў працы сампрамкаапэрацыі атрымалі адпаведную зарадку як па лініі водпуску тавараў, так і па лініі крэдытаваньня. Былі выпадкі, калі слаба забясьпечвалі беднякоў і сераднякоў. Дадзена дырэктыва на забесьпячэньне ў першую чаргу вытворчых патрэбаў саматужніка, бядняка і серадняка. Але тут ёсьць недарэчнасьці. У складзе сяброў таварыства, членаў прафсаюзаў і сялянбеднякоў, ёсьць, якія маюць свае паі ў крэдытных прамысловых таварыствах на даволі вялікія сумы. Гэтыя

катэгорыі пайнікаў патрабуюць пазыкі, бясспрэчна, не на вытворчыя патрэбы, а на патрэбы асабістага характару: на прадукты, будоўлю хат і г. д. Некаторыя крэдытна-прамысловыя таварыствы, як Чэрвенскае, пашло па лініі бязумоўна правільнай. Яно зусім не выдае пазык гэтай катэгорыі, і зразумела, што на працягу трох месяцаў ёсьць да 30 заяў аб выхадзе з пайнікаў. У гэтым пытаньні патрэбна яскравасьць.

### Аб акруговых пакроечных па кравецкаму і шавецкаму промыслу

Да гэтага часу няма ніякае сыстэмы ў атрыманьні тавараў асабліва дэфіцытных. У адзін дзень наяжджаюць прадстаўнікі дзесяткаў арцеляй з аднаго і таго-ж раёну. Пагэтаму сваячасова і неабходна трэба паставіць пытаньне аб арганізацыі акруговых пакроечных на кравецкія і шавецкія тавары. Гэта, зразумела, дасьць вялікую эканомію, бо тады кожная арцель будзе атрымоўваць гатовыя выкраеныя тавары. Ад гэтага атрымаецца вялікая эканомія, бо ў акруговай пакроечнай можна будзе ўсё ўтылізаваць, чаго нельга зрабіць у кожнай арцелі паасобку. Гэта дасьць магчымасьць скараціць выдаткі на паездкі, палепшыць якасьць прадукцыі і выкарыстаць астачу кавалкаў. Гэты вопыт трэба прарабіць цяпер, каб вывучыць мэтазгоднасьць гэтага.

### Перайсьці на вытворчы інструктаж

Сыстэма абслугоўваньня нізоўкі да гэтага часу дае свае адмоўныя бакі. Цяпер, калі арцелі патрабуюць ня толькі арганізацыйных паказаньняў, але і вытворчага інструктажу, бясспрэчна, што інструктар, якімі-б арганізацыйнымі здольнасьцямі ён ні ўладаў, ня можа адначасова даць напрамак у розных галінах вытворчасьці, а таму зусім сваячасова пастаўлена пытаньне аб пераходзе на вытворчы інструктаж.

Тады кожны інструктар, калі ён будзе спэцыялістам, будзе адказваць за той промысел, да каторага ён прымацаваны. Некаторыя таварышы баяцца, што тады ў адзін і той-жа раён будуць ехаць многа інструктароў. Я лічу, што гэта зусім ня дрэнна. Інструктар таго ці іншага промыслу, калі будзе на раёне, ён у асноўным будзе вывучаць працу арцеляй свайго промыслу, але разам з тым будзе вырашаць усялякія арганізацыйныя пытаньні ў другіх арцелях.

---

**Фаламетаў**

## За рацыяналізатарскі мінімум

Кампанія за выкананьне рацыяналізатарскага мінімуму па Менскаму ЦРК дае значныя станоўчыя вынікі. Да прыкладу сказаць, аб дастаўцы тавараў на дом і папярэдніх заказах. Да кампаніі аб гэтым толькі гаварылі, а цяпер перайшлі ад слоў да справы.

Цяпер вытвараецца вопыт дастаўкі малака на дом у дзьвюх крамах. Часта за малаком, у зьвязку з яго недастачаю і неакуратнаю дастаўкаю, ствараліся агромністыя чаргі. Спажыўцы стаялі за малаком па 2 і 3 гадзіны ў чарзе.

Вытворчы вопыт зусім сябе апраўдаў. Падыйшлі да гэтае справы вельмі проста. Каапэрацыйныя камісіі, прымацаваныя да крам, разам з загадчыкам рабілі адборку пайшчыкаў. У першую чаргу задаволілі пайшчыкаў з меншым заробкам і тых, якія маюць дзяцей. Сьпісы для кантролю вывешвалі ў краме. Потым зьбіралі раённы сход пайшчыкаў і падрабязна знаёмілі з парадкам і тэхнікаю дастаўкі.

Малако разносіцца ў бітонах на каромыслах да 20 літраў. Кожны разносчык разносіць па 70—80 літраў.

На руках у разношчыка ёсьць адрас абанэнта. Кошт літру малака 16 кап. і за дастаўку ў карысьць разношчыкаў бярэцца дадаткова па $1^1/_2$ к. з літра. Грошы пайшчыкі плоцяць за малако ўперад пры атрыманьні абанэмэнтаў. Разношчыкі за раздадзенае малако даюць справаздачу талончыкамі, якія адорваюцца ад абанэмэнтаў. Каб ня ўзьнімацца на верхнія паверхі і не заходзіць у адным двары ў кожную кватэру разношчыкі маюць званкі.

Пайшчыкі новым мэтадам раздачы малака вельмі задаволены. Аднак не абыходзіцца справа бяз спрэчак. Былі выпадкі дастаўкі пракіслага малака, была несваячасовая дастаўка. Але гэта ўсё адхілена. Цяпер ЦРК бярэцца за забесьпячэньне малаком па такому-ж мэтаду з астатніх крам.

Гэтае новае ўвядзеньне спрыяе папярэднім заказам. У тых жа крамах месяц назад ня было ніводнага папярэдняга заказу, а за апошні час у адну краму за два дні паступіла заказаў на 800 з лішкам рублёў. Праўда, гэтаму садзейнічала выдача ў адзін і той-жа час масла, сала, круп і другіх нарміраваных прадуктаў.

Сыстэма заказаў такая: пайшчык, які жадае зрабіць заказ, падае сваю каапэрацыйную кніжку, і загадчык тут-жа запісвае заказ пад капірку у 2 экзэмплярах. Потым пайшчык, умовіўшыся аб часе выкананьня заказу, пакідае кошык, куды кладзецца адзін экзэмпляр заказу, а другі аддаецца заказчыку, і кошык аддаецца ў фасовачны аддзел.

Па выкананьні заказу *прадавец на* блянку адзначае сваё прозьвішча. Гэта робіцца для ўстанаўленьня, хто з прадаўцоў зрабіў памылку, калі гэта здарыцца.

Ёсьць факты, што пайшчыкі аб папярэдніх заказах мала ведалі. Ад гэтага справа ня рухалася. Трэба самая шырокая тлумачальная праца і ў гэтым павінен пасабіць каапэрацыйны актыў.

Напрыклад, цікавы вопыт зрабіла каапкамісія першай Дзярждрукарні. Каб папулярызаваць папярэднія заказы на прадпрыемствах, камісія вывесіла аб'яву, дзе памянула, што такога-та чысла ЦРК выдае такія-та прадукты і што хто жадае атрымаць без чаргі павінен заявіць камісіі. Зьдзіўленыя пайшчыкі павалілі валам. Старшыня камісіі запісваў тавары і перадаваў заказы па тэлефону ў крамы. Усе заказы былі выкананы акуратна і ў час. А пасля гэтага ўжо пачалі па тэлефону рабіць заказы і самі рабочыя. У некаторых крамах пачынаюць арганізоўваюць дастаўку тавараў на дом. Трэба думаць, што ад папярэдніх заказаў да дастаўкі тавараў на дом адлегласьць, бясспрэчна, меншая, чымся ад чаргі да папярэдніх заказаў.

---

**Макар Валацуга**

# Па каапэрацыйных ухабах

(*Дарожныя нататкі Макара Валацугі*)

...Я перашоў лагчыну і ўзышоў, падняўся на ўзгорак. І от калі я падняўся на гэты ўзгорак ды іду, дык мяне наганяе нейкая фурманка.

— Ото-ж каб, здаецца,—мяркую я сам сабе,—о-то-ж каб гэтая, здаецца, фурманка, ды мяне падвязла.

А-а, я-яй-як бы яно было добра.. Бо да самага мястэчка яшчэ застаецца вёрст, вёрст... Ня ведаю колькі вёрст, бо тут нямашака верставых слупкоў. Адным словам, застаецца бадай што некалькі вёрст з гакам.

Але пакуль я разважваю аб фурманцы, аб вёрстах, дык яна, гэтая фурманка, мяне ўжо і нагнала.

— Можа ці не падвезьлі-б вашэці, мяне?—пытаюся я ў фурманкі ды іду побач з ёю.

А яна, гэтая фурманка, едзе сабе крокам і нешта ўсё прыглядаецца... прыглядаецца.

Глядзіць перш на мае штаны, потым кідае зірк на мае ногі, а потым на твар, канешне.

— Чаго вы, васан углядаецеся?— пытаюся я. Што можа вы ці не пазнаеце мяне?

— Ага!—кажа „васан“,—пазнаю.

— Ну, то што-ж,—пытаюся я, пазналі, ці не?

І фурманка яшчэ адзін раз прыглецзелася... лепш кажучы, ня фурманка прыгледзелася, а мой „вашэці“. Дык прыгледзеўся ён той, што ехаў на фурманцы, і кажа:

— Каб вам чэрці скуру вашую сьпісалі, як вы, кажа на мяне напісалі-от. Я, кажа, душою на вінаваты, а вы... Я, калі на тое пайшло, кажа, не адзін піў і ўсё такое. Так што недахоп у касе, калі на тое пайшло, не цераз мяне аднаго-вот.

— Н-но!—з усяе сілы сьцебануў чалавек каня і мяне... і нават во, як хацелася сказаць чалавеку, што я таксама вінаваты душою богу.

— Канешне, хацелася сказаць і нават катэгарычна. Бо я ніколі ня пісаў і нават ня зьбіраўся і нават ня меў у галаве, каб пакрыўдзіць гэтага незнаёмага чалавека. Ды ня толькі незнаёмага, а я ў маім жыцьці ні знаёмых, ні нават мала знаёмых— таксама ня крыўдзіў. Я спачуваю. І яшчэ-ж вунь як.

Калі я дачуўся, што Талочынскае спажывецкае таварыства разьмяркоўвае мануфактуру па выбару... дык у мяне і нават вунь якое спачуваньне.

Бо і ў самадзеле: ў калгасьнікаў менш грошай. Так што калгасьнікі прадаюць жыта па 1 р. 28 к. каапэратыву таму і менш яно. Тады як кулакі, тыя хто мае і для сябе і для продажу... прадаюць жыта па 2 рублі з чым-то. Ну, то калі яны прадаюць па 2 рублі з чым-то, значыцца, канечне, у іх больш грошай. А разам яно больш,-то чаму-ж Талочынскаму спажывецкаму т-ву не даць таму ў каго больш.

І яно дае-адпускае: першым па 3 мэтры на пайніка, другім—па 5 мэтраў на... таксама, на пайніка.

Адным словам... Але я не пасьпеў выказаць усяго таго, што павінна было-б быць у адным слове, як з павароткі—тра-ра-х-тра-та-рах і выяжджае і якраз ў маю дарогу едзе... Хто-б вы думалі едзе? Мой, мой знаёмы блізкі: едзе Мікола.

Я гляджу, падыходзячы да калёс, на Міколу, і мяне аж нават нешта цікнула.

— Чаму ты?!.. што з табою?—хачу казаць і не адважуся.

І от калі яшчэ не адважыўся казаць таго, што мяне цікнула, Мікола перапыняе:

— У мяне такое гора,—перапыняе ён, такое... каб ты, братачка, ведаў. Сядай-жа... дык каб ты ве-э-эдаў.

Дык нас трасе гэтае па каменьнях, а ён, Мікола, мой найбліжэйшы, і нават амаль ня сусед, кажа, расказвае: ...трэба-ж напісаць. Ды як напісаць. Дзе-ж то відана: хіба я, загадчык Яванчэлевіцкага аддзяленьня Капільскага раёну, я, можна сказаць, Маліноўскі Мікалай ды буду так вычвараць? Што гэта, хіба я зьдзяцінеў ці што, пане мой. Дзе гэта яно, тое, відана, каб я ды ніколі ня бываў у краме. Нібыта езьдзіў у лес, нібыта на поле... І от каб мая жонка нібыта казала, што я ня ў лес, і не на поле паехаў, а ў м. Леніна за таварамі. Што гэта я альбо мая жонка—якія абманшчыкі, як той казаў. Калі на тое пайшло, дык аб гэтым могуць... можа даказаць нават тарарыш Раўкам П. І., калі на тое пайшло, дык мы нават у двох з ім разьмяркоўвалі падэшвы... А тое, што некаторыя спазьніліся прыці за купляю падэшваў, у гэтым мы таксама не вінаваты. А нітак мы навідавоку ня трымалі таму, што іх цяпер вобмаль. Дык пакольні іх вобмаль, не канешне выстаўляцца з імі. А ён, нехта, усё гэтае напісаў, ды хацеў, каб аддрукавалі. Ён, гэты нехта, думаў, што зразу-ж от і аддрукуюць у часопісі «Каапэрацыя БССР».

— Дык вось ад чаго няпрыемнасьць на сэрцы, ад чаго гора.

І мы едзем гэтак. Я маўчу пакрысе. А нас ізноў падкідае на калёсах на сядзеньні: дрогае па каменьнях.

— Тут поле—камяніца,—парушаю я маўклівасьць.

— Ага,—кажа мой амаль што ня сусед.

Але паколькі едучы ні сякая, ні такая праца, я ізноў пачынаю, хачу каб ён хоць што гаманіў.

— Што ў вас чуваць?—пытаюся я.—Як вашыя суседнія маюцца каапэратывы?.

— Эт, маюцца,—кажа ён—прыгароднае спажывецкае таварыства „Земляроб", чуў я, правілы новыя высунула.

— А менавіта?—перапыняю я.

— Наконт хлеба, адказвае ён.—Яно, гэтае таварыства, мяркуе вынесьці пастанову, каб не адпускаць настаўнікам хлеба. Так што яно мяркуе, каб настаўнікі дзе хаця бралі хлеб. Дык яны і бяруць: пазычаюць то ў сяго, то ў таго, пакуль пазычаецца А загадчык таварыства чуць-чуць усьміхаецца і ўсьміхаючыся ўжо кажа:

— «Я тут ні пры чым. Я, можна сказаць, ведаю, што кожнаму чалавеку трэба хлеб. Але паколькі ў нас хлебазагатоўкі і ўсё такое, няхай як-небудзь абыходзяцца». Дык яны вось гэтак і «абыходзяцца» пазычаньнем то ў таго, то ў сяго.

— Ну, а што яшчэ чуваць? пытаюся я ў Міколы, памаўчаўшы. Як маецца твая радня?—Якія сёлета ў вас ураджаі? Як праходзяць хлебазагатоўкі?

Дык я пытаюся, а Мікола буркае па адным слове сам сабе пад нос: адказвае то сёе, то тое.

Але от і паваротка. Мы даехалі да таго месца, дзе мне трэба паварочваць, каб іці на мястэчка.

— Тпру, кажу я. Дык я ўжо можа і зьлезу.

І я, канешне, злажу і іду, распрашчаўшыся з маім блізкім суседам. Ідучы, думаю сам сабе, што мне шкода ўсё-ж такі майго знаёмага і што я абавязкова паклапачуся, каб пра яго не надрукавалі таго, што напісалі.

— Я абязацельна паклапачуся.

А от адносна Мішнявіцкага аддзяленьня на Віцебшчыне, адносна старшыні, адносна крамароў—Гарупава і Сяргеева...

— Але што гэта. І я ўглядаюся ідучы і бачу.. што, што-ж гэта я... І яшчэ і яшчэ ўглядаюся...

— Цьфу!—зрываецца з маіх вуснаў. Аказваецца перада мною ня «што», а «хто». І от у гэтым «хто» пазнаю Яращэвіча з Смалявіцкага раёну.

— Няўжо гэта ты, Янка?—дзіўлюся я, гледзячы на яго твар.—Куды, адкуль жа цябе гэта нясе? Як ты з грашыма? Ці пайшлі хаця яны табе на карысьць. Гэта-ж усё такі цыфра як ні гавары: так што, пяцьсот трыццаць тры рублі, гэта цэлы „гурт" грошай. І за іх—уга што можна скумекаць!

І Янка махае рукою. Перад самым маім носам махае сваёю ўласнаю рукою, нібы адганяе гэтаю рукою камара.

— Што ты чаўпеш? — дзівіцца Янка.—Калі на тое пашло-о, дык і ня пяцьсот з чым-то, а ўсіх... усіх...

Янка падлічвае колькі ён усіх змахлёрыў грошай. Лепш кажучы, не змахлёрыў, а як ён (Янка) кажа... колькі іх закінулася за прылавак, і як ён гэтае „закінулася" ніяк ня знойдзе за гэтым „прылаўкам" сярод абвёртачнай паперы.

Дык Янка падлічвае, а я слухаю:

— ... аказаўся недахоп у Юраўскім спажывецкім таварыстве,—казаў Янка,—за час першы час у ім мае працы на суму 993 руб.—гэта раз. Тады на пасяджэньні сяброў праўленьня, у пратаколе ад 21 чэрвеня за № 5, было пастаноўлена, што мяне, Ярашэвіча, патрэбна зьняць з працы. Але, яшчэ раз праслужыўшы, ад гэтае пастановы і да таго, пакуль мяне патрэбна было зьняць—гэта значыцца, да 14 ліпеня, у Юраўскім таварыстве аказаўся недахоп на суму 533 рублі,—гэта два.

Янка падлічваў далей, а я таксама далей слухаў.

— Пасьля таго мяне ўжо зьнялі,—казаў Янка,—мне, як зьнятаму, даручылі зьбіраць даўгі на суму 400 рублёў. Але паколькі даўгі зьбіраюцца ня так-то дружна і паколькі іх усіх усё роўна нельга было-б сабраць, я назьбіраныя ўжо, каб ня

згубіць іх, аддаваў у „паклажу“, у тую касу, праз вакенца якой аж сьвіцяцца чырвонагаловыя харашухі. Дык я аддаваў і я не вінаваты, што мне адтуль з „паклажы“ цяпер ня хочуць зьвяртаць—гэта тры.

— Дык вось,—канчае Янка, гледзячы на мяне,—цяпер ужо лёгка і кожнаму падлічыць з гэтых трох пунктаў, колькі ў мяне тут назьбіралася пакрысе.

— Канешне,—казаў Янка, — каб ня мой таварыш Юшкевіч, сэкратар партыйнай ячэйкі, мне-б прышлося крута. Ці прышлося-б крута саўсім, напэўна ня ведаю. Але мне так думаецца. Але паколькі Юшкевіч мой такі-то дружака, ён во як шмат мне дапамог. Юшкевічавы словы цяжкія і моцныя, як волава. І ён от гэтымі словамі даў мне перад праўленьнем характарыстыку. Юшкевіч цьвёрда сказаў:

— „Таварыша Ярашэвіча саюз прыслаў на працу, а ня то што. Таварыш Ярашэвіч—актывісты і так і далей.

Так сказаў і, бязумоўна, як адсек.

— Мілы чалавек мой Юшкевіч.

А тое, што ў мяне знашлі пакражу віннае „запяканкі“ і так і далей, апрача „расходаў“ ад трох пунктаў,—дык я, калі на тое пашло, можа нават і ня вінен. Праўленьне вінавата. Рэвізійная камісія вінавата. Патрэбна было-б ім за мною сачыць, калі хацелі, каб і ні таго і ні сяго ня было. Так што, калі што якое будзе,—дык пракурор няхай можа пагутарыць таксама і з імі. Не канешне аднаго чалавека „ўгробліваць“. Бачылі яны, і мой дружака Юшкевіч, што грошы і ўсё такое высьлізгуюцца з маіх рук, патрэбна было шапянуць хоць мне, альбо хоць што якое іншае і далей так.

І от з гэтымі словамі мы ўвайшлі ў мястэчка Вузду. І нават я падыйшоў аж да спажывецкага таварыства „Змычка“. Трэба будзе хлеба купіць,—вырашыў я, становячыся ў чаргу, а па-другое—трэба будзе выпісаць газэту.

Дык я стаў у чаргу і пакуль што стаю.

— Цікава паназіраць за гадзіньнікам, стоячы ў чарзе,—вырашаю я,—цікава, колькі лічбін пераступіць гадзінная стрэлка, пакуль я буду чакаць, цікава, калі бразьне прэнт на дзьвярах і адчыніцца хлебная крама.

---

**Няшчадная барацьба ў тэорыі і на практыцы супроць галоўнае небясьпекі—правага ўхілу і прымірэнцтва. Рашучы адпор дэзэртырам з рэвалюцыйнага фронту!**

---

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

**Кароль Бітэль**

## Рэгрэс у нямецкай спажыўкаапэрацыі

Зьмяншэньне ліку членаў і скарачэньне зваротаў.

25-гадовы юбілей у 1928 годзе прынёс спажывецкім аб'яднаньням расчараваньне. Вялікія абяцанкі ня збыліся. За апошнія 5 год лік членаў усё падае. Павялічэньне зваротаў было мінімальным. У прыватнасьці, звароты таварыства оптавых закупак і яго вытворчых прадпрыемстваў у процантных параўнаньнях ня далі прыкметнага павялічэньня.

Цэнтральны саюз толькі што выпусьціў свае апошнія статыстычныя весткі. З іх мы бачым, што ў другім квартале 1929 году лік членаў зноў зьменшыўся, і зварот даў зьніжэньне. Гэтыя статыстычныя агляды выходзяць чатыры разы ў год і зьяўляюцца нібыццам баромэтрам гаспадарчага становішча. У гэтыя статыстычныя агляды ўваходзяць ня ўсе 1000 спажывецкіх аб'яднаньняў. У іх удзельнічаюць найбольш буйныя, з лікам членаў больш 4000; такім чынам, у агляд уваходзяць каля 600 спажывецкіх аб'яднаньняў. Мы падаем тут цікавыя лічбы за апошнія 6 кварталаў, пры чым лік членаў паказаны ў мільёнах, а сумы ў мільёнах марак.

**Квартальная статыстыка за 1928-29 г.**

(сумы ў мільёнах марак)

| | У 1928 годзе | | | | У 1929 годзе | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | I | II |
| Колькасьць каапэратываў | 624 | 622 | 610 | 603 | 602 | 592 |
| „ членаў | 2,85 | 2,78 | 2,77 | 2,81 | 2,87 | 2,82 |
| Зварот | 246.06 | 263,90 | 269,25 | 313,61 | 288,45 | 286,65 |
| Удзел у справах | 44,26 | 45,32 | 47,11 | 51,53 | 53,23 | 54,69 |
| Укладныя апэрацыі | 233,61 | 253,93 | 281,53 | 295,94 | 323,82 | 341,52 |
| Звароты т-ва оптав. закупак | 100,57 | 96,86 | 115,84 | 131,10 | 114,54 | 106,67 |
| У %% да агульн. каапэр. звароту | 40,87 | 36,70 | 43,03 | 41,80 | 39,71 | 37,21 |
| Вытв. грам. опт. закупак | 24.91 | 23,19 | 27,73 | 28.89 | 28,68 | 25,92 |
| У %% да каапэр. звароту | 10,12 | 8,79 | 10,30 | 9,21 | 9,94 | 9,04 |
| У %% да звароту т-ва опт. закупак | 24,77 | 23,95 | 23,94 | 22,03 | 25,04 | 24,30 |

Аналізуючы лічбы, мы раней за ўсё бачым, што колькасьць членаў ідзе па крывой лініі: то павялічваецца, то памяншаецца, без таго, каб зазначыць які-небудзь значны рост членаў у нямецкай рабочай спажывецкай каапэрацыі. Характэрна, што ўпяршыню за доўгі час зноў адзначана зьніжэньне зваротаў. У аднэй Саксоніі, дзе ёсьць асабліва выяўленыя рабочыя спажывецкія аб'яднаньні, зьніжэньне зваротаў складае $2^1/_2$ мільёны марак.

Бясспрэчна, што гэтыя факты ўплываюць трывожна і сыгналізуюць сур'ёзны крызіс унутры нямецкага каапэрацыйнага спажывецкага аб'яд-

наньня. Са зьніжэньем зваротаў натуральна пала рэнтабельнасьць спажывецкіх аб'яднаньняў. Хоць за апошнія гады гаспадарчае становішча каапэратываў палепшылася, але ўсё-ж яны не дасягнулі даваенных зваротаў. Характэрна ў гэтай справе тое, што ў час абгаварэньня з прафсаюзамі дагавораў было патрабавана, каб звароты ў разьмеркавальніках на кожнага штатнага працаўніка былі ня менш 42 тысяч марак, у сапраўднасьці гэтая сума не перавысіла ў 1928 годзе 25.300 марак. Гэта азначае, што крамавы пэрсанал ня быў рацыянальна выкарыстаны і разьмеркавальны апарат ня цалкам нагружаны, што, канечна, выклікае падвышэньне гандлёвых выдаткаў.

Асаблівую трывогу выклікае зьніжэньне зваротаў таварыства оптавых закупак у сувязі з тым, што іх уласная вытворчасьць за апошнія гады ўсё пашыралася і павялічвалася, вытворчы апарат ня даў належнага эфэкту, у асаблівасьці трэба адзначыць, што процантныя суадносіны каштоўнасьці ўласнай прадукцыі да агульнага звароту таварыства оптавых закупак пагоршыліся.

Уласныя сродкі даюць таксама нязначны рост і дасягнулі цяпер сумы ў 54,69 млн. марак, прыблізна такая-ж сума знаходзіцца ў рэзэрве. Затое, мы маем за апошнія кварталы, як і за апошнія гады, вялікі рост ашчаднасьцяй. Хоць яны і ніжэй агульнага ўздыму апошняга часу, але усё-ж суму ашчаднасьцяй ў 341 млн. марак трэба лічыць надзвычайна вялікаю.

Галоўная прычына застою ў спажыўкаапэрацыі Нямеччыны ляжыць у зьмяншэньні пражытачнага мінімуму рабочых. Мільёны беспрацоўных, скарочаны рабочы тыдзень, звальненьні і забастоўкі зьнізілі прыбыткі шырокіх рабочых мас да немагчымага ўзроўню. Гэтыя прыбыткі за апошнія месяцы яшчэ больш зьменшыліся з-за дарагоўлі, якая выклікана дыктатураю цэн трэстаў і карцеляй, падаткамі і мытамі, што ўвёў варожы рабочаму руху коаліцыйны ўрад. Да таго-ж канкурэнцыя, якую даводзілася весьці спажывецкай каапэрацыі з буйна-капіталістычнымі гандлёвымі канцэрнамі і сыстэмай „цэпных" крам, не заўседы канчалася ў карысьць каапэрацыі. Таксама ў барацьбе з традыцыйным дробным гандлем каапэрацыя мела цяжкія гадзіны. У гэтай няроўнай барацьбе за падвышэньне жыцьцёвага ўзроўню шырокіх мас, супроць падатковае і мытніцкае палітыкі ўраду, супроць канкурэнцыі буйна-капіталістычных прадпрыемстваў і дробна-гандлёвых сярэдніх кляс нямецкая рабочая спажывецкая каапэрацыя аказалася зусім слабой. Хоць на апошнім каапэрацыйным зьезьдзе ў Лянгэйме адзначалі, што спажывецкія аб'яднаньні будуць змагацца ўсімі сродкамі, але прайшло ўжо тры месяцы, і нічога за гэтыя часы не здарылася. Нават буйныя спажывецкія аб'яднаньні ня выказваюць ніякае актыўнасьці, бо, напэўне, баяцца, каб пралетарская апазыцыя з асяродку яе членаў ня выступіла на сцэну супроць бюракратыі. Нават спажывецкія аб'яднаньні ў Бэрліне з яго 180000 членаў не арганізавалі ніякае дэманстрацыі ў Міжнародны дзень каапэрацыі, абмежаваўшыся толькі наладжваньнем сьвята для сваіх супрацоўнікаў. Толькі камуністычная апазыцыя наладзіла самастойна ў гэты дзень цэлы шэраг буйных дэманстрацый спажыўцоў супроць дарагоўлі, мыты і падаткаў і выступала з лёзунгам за адзіны клясасавасьвядомы каапэрацыйны рух.

Як каапэрацыйныя аб'яднаньні ўяўляюць сабе барацьбу, мы бачым на прыкладзе Гамбургу, дзе вядомае калісьці па сваёй клясавай сьвядомасьці рабочае каапэрацыйнае аб'яднаньне „Прадукцыя" зьвярнулася ў рэйхстаг з запіскаю аб „падатковым бяспраўі".

Яскрава, што вострыя прамовы, з якімі Аўгуст Каш кожны дзень выступае ў каапэрацыйным друку, нікога ня здолеюць напалохаць, і вынікам усяго гэтага зьяўляецца скарачэньне ліку членаў і зьмяншэньне зваротаў.

Перад нямецкай спажывецкай каапэрацыяй стаіць зусім яскравая неабходнасьць аб'яднаць самым цесным чынам свае патугі разам з прафсаюзамі і астатнімі рабочымі арганізацыямі для сумеснае барацьбы за інтарэсы рабочае клясы, мабілізуючы ў большай ступені, чым да гэтага часу, увагу пралетарыяту вакол задач каапэрацыйнага руху. Толькі тады, калі шырокія масы зразумеюць, што спажывецкія аб'яднаньні—гэта каштоўныя клясавыя арганізацыі, яны будуць узмацняць гэты рух, увальлюць у яго новых членаў, павялічаць звароты і гэтым самым забясьпечаць яму шырокае разьвіцьцё.

---

**Пад кіраўніцтвам партыі Леніна мы перамаглі ў Кастрычніку паноў і капіталістых, пад яе кіраўніцтвам будуем сацыялізм, пад яе кіраўніцтвам дабʻемся поўнае перамогі працы над капіталам**

**Не дадзім імпэрыялістым сарваць будаўніцтва сацыялізму. Узмацнім працу па рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньню цэн, строгай эканоміі, барацьбе з бюракратызмам**

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Абежнік № 60

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

(*4 верасьня 1929 г.*)

### Акруговым і Народным Судом і Акруговым Пракурорам

На падставе прапановы Савету Народных Камісараў БССР Народны Камісарыят Юстыцыі ў дадатак да цыркуляраў сваіх ад 21 мая 1927 г. № 38, 12 лютага 1929 г. № 11 і 28 сакавіка 1929 г. № 23 прапануе:

1. Супроць асоб, якія злосна ня плацяць запазычанасьці па атрыманых ад органаў сельска-гаспадарчага крэдыту пазыках, пачынаць крымінальныя справы паводле арт. 252 КК.

2. Супроць службовых асоб, вінаватых у зрыве працы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту па спагнаньню плацяжоў па пазыках, пачынаць крымінальныя справы паводле арт. 196 альбо 197 КК.

3. Гэтыя справы разглядаць без чаргі і ў паказальным парадку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі **Валасевіч**.

---

**Пралетары ўсіх краін і прыгнечаныя народы сьвету, пад Ленінскім сьцягам уперад да сусьветнага Кастрычніка!**

**Сацыялістычнае спаборніцтва—магутны рычаг выкананьня пяцігодкі. Няхай жыве рэвалюцыйная ініцыятыва і вытворчы гэроізм рабочых і сялян!**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Як павялічыць урадлівасьць нашага поля. Галоўныя вынікі досьледаў Турскай с.-г. дасьледчай станцыі Б. Д. В. Менск 1929 г. Ст. 24.** *Цана 6 кап.*

Брашурка, якую мы рэцэнзуем, зьяўляецца адбіткам, вынікам практыкі і досьледаў над рознымі сельгаспадарчымі расьлінамі Турскай с.-г. дасьледчай станцыі.

Па свайму зьместу яна зьяўляецца вялікім дапаможнікам у сэнсе паляпшэньня рознага гатунку глебы і падняцьця ўраджайнасьці наогул.

У брашурцы так проста і зразумела складзены ўсе тыя факты практыкі, вопыту і досьледаў, якія прарабіла Турская с.-г. дасьледчая станцыя. У ёй можна найсьці параду, якім чынам, пры дапамозе чаго павялічваецца ўраджай; якімі расьлінамі трэба займаць папар; пад якую з яравых расьлін лепш класьці гной і колькі яго трэба на 1 гэктар для тэй ці інш. глебы. Гэтаксама добра растлумачана, як трэба карыстацца зялёным угнаеньнем: лубінам, сэрадэляй і г. д., калі, дзе і колькі таго ці іншага угнаеньня трэба сеяць, каб атрымаць максымальны ўраджай; як трэба карыстацца штучнымі ўгнаеньнямі і колькі таго ці іншага патрабуецца на адзін гэктар; як, дзе і ў якую пару году лепш сеяць канюшыну і садзіць бульбу.

У брашурцы раіцца (на аснове досьледу), якую, наогул, лепш сеяць расьліну ва ўмовах Беларусі.

Усе гэтыя пытаньні складзены кароценька, але так яскрава, што ўсялякі малапісьменны селянін, прачытаўшы брашурку, зможа дапасоўваць у сваёй гаспадарцы усе тыя парады дасьледчай станцыі, якія маюцца ў брашурцы.

У канцы брашуркі Турская дасьледчая с.-г. станцыя звярачаецца да чытача-селяніна з прапановай, што калі хто жадае падрабязна пазнаёміцца з работай станцыі, дык гэта магчыма праз лісты.

Трэба сказаць, што гэта брашурка для нашага часу выконвае сваё прызначэньне. Толькі трэба рознымі шляхамі прасунуць яе бліжэй да селяніна. Яе ў першую чаргу трэба набыць вясковаму клюбу, хаце-чытальні і с.-г. гуртком. А набыць яе, дзякуючы невялікай яе цане, лёгка.

**С. К.**

---

**„Жытлова Коопэрацыя Украйны“— Орган Усеукраінскай Коопэрацыі Харкаў, верасень 1929 г. № 2.**

Часопіс „Жытлова Коопэрацыя Украйны“ асьвятляе на сваіх старонках пытаньні жыльлёвага каапэрацыйнага будаўніцтва Савецкай Украіны.

Дзевяты нумар мае наступныя аддзелы: афіцыйны, будаўніцтва і рамонт, культурная праца і нарысы.

Найбольшай цікавасьцю і жывасьцю зьмешчаных матар'ялаў вызначаюцца аддзелы: афіцыйны і культурная праца.

Перадавы артыкул „З большым тэмпам уперад“—вызначае і застанаўліваецца на сродках практычнага вырашэньня галоўных задач жыльлёвага будаўніцтва ў бліжэйшыя часы бягучай пяцігодкі. Калі ў другіх галінах нашага сацыялістычнага будаўніцтва мы часта робім звыш, чымся арыэнтыровачна вызначана па пляну, дык тут у галіне жыльлёвага будаўніцтва, работа яшчэ недастатковая. Мабілізацыя грамадзкіх сродкаў на гэтую галіну будаўніцтва намі праведзена недастаткова: мала зроблена

Заслугоўвае сур'ёзнае ўвагі артыкул з прычыны прапановы Ю. Ларына аб пераходзе на двухзьменны дзень працы ў нашых установах. Пададзены лічбовы матар'ял паказвае аб тэй вялікай эканоміі, якую можам атрымаць у выніку ажыцьцяўленьня прапановы Ларына.

Прыклад: калі скараціць жылплошчу, якую займаюць установы (па Украіне) на 25% шляхам некаторага ўшчыльненьня дык атрымліваецца вольнае жылое плошчы паўтара мільёны кв. мэтр., што задаволіць 180000 чалавек. У пераводзе на грошы будаўніцтва такой жылплошчы будзе каштаваць 200.000.000 руб.

Артыкул,—„Культурная рэвалюцыя і Жилкаапэрацыя“ зусім слушна зазначае, што мы часта займаемся дробязямі і прапускаем буйныя справы. Зводзім справу да нейкага гуртка з двух-трох асоб і не ўцягваем у працу шырокіх пластоў працоўных. Наяўнасьць такіх фактаў у галіне перабудовы нашага быту надта кідаецца ў вочы. Артыкул пададзены ў парадку дыскусіі, гэта бязумоўна добра.

Цалком увесь нумар складзены з матар'ялаў на актуальныя пытаньні сёньняшняга дню.

**Б. С. Швэйк.**

**„Промыслово - кредитная кооперация среди евреев“. Под редакцией Л. С. Зака. Издание еврейского колонизационного общества. Москва 1929 г. Стр. 118.**

Рэцэнзуемая кніжка па ліку зьяўляецца чацьвёртым выпускам аб дзейнасьці „Кредитно-промысловой кооперации“, якая абслугоўвае ў большасьці на падставе анкетнага матар'ялу, які зьбіраўся з усіх таварыстваў, што крэдытуюцца Е. К. О. Таксама для асьвятленьня асобных пастаноў пададзены шэраг матар'ялаў інструктарскіх аглядаў.

Кніжка падзяляецца на такія, прыкладна, разьдзелы: лік таварыстваў і час арганізацыі іх,; склад таварыстваў—нацыянальны, прафэсыянальны, па стану і інш.; органы кіраваньня—праўленьне, савет; памеры зваротных сродкаў, уклады, займы і г. д.

„Промыслово-кредитные товарищества“ атрымалі сваё галоўнае разьвіцьцё на тэрыторыі Украіны і Беларусі (раёны, якія зьяўляліся так званай „чертой оседлости“). Яўрэйскія працоўныя масы раскіданы, галоўным чынам, у гарадох і мястэчках Беларусі, Украіны.

Праца аўтара досыць шырока асьвятляе становішча і дзейнасьць таварыстваў. Прачытаўшы кніжку, можна мець больш-менш поўнае ўяўленьне і аб становішчы і аб дзейнасьці, аднак кніжка не пазбаўлена і хібаў як у яе агульнай пабудове, так і асобных частках.

Не малаважным было-б паказаць больш менш поўнае матар'яльнае становішча асноўнае масы, ахопленай у таварыствы. Трэба было зрабіць больш дасканалую дыфэрэнцыяцыю з клясавага пункту погляду. Дадзеныя і табліцы, і дыяграмы і тэксту неяк глуха і туманна аб гэтым гавораць. Да прыкладу возьмем частку аб прафэсыянальным складзе. Лічбы аб ліку іншых служачых, рабочых, сельскіх гаспадарак, дробных прамыслоўцаў і 80% саматужнікаў—нічога не гавораць. Саматужнік саматужніку—розьніца. Адзін можа мець уласных капіталаў, закладзеных у сродкі вытворчасьці, 100—200 руб., а другі тыс. і мець наёмную рабочую сілу. Слова „саматужнік“, як і слова „селянін“—глухое слова і ні аб чым не гаворыць.

Разам з іншымі хібамі кідаецца ў вочы недакладнасьць тэрміналёгіі. Кніжка выдадзена ў 1929 г. і складзена па дадзеных 1927-28 г., а аўтар, спыняючыся на акругах Беларусі ці Украіны, адзначае іх як „губернии“. З тэхнічнага боку кніжка выдадзена добра і каштуе 1 рубель.

**Д. Кубанскі**

---

**Ян Скрыган. „Новая зямля“ (пра арцель „Бальшавік“) Выданьне Народнага Камісарыяту Асьветы БССР і ЦРТ-ва „Прэч няпісьменнасьць“ Менск, 1929 г. Ст. 40.**

Ян Скрыган дагэтуль выступаў у беларускай літаратуры пад псэўдонімам Відук, якога належнае чытацкае кола ведае па яго вершах і прозе. Зараз ён прапанаваў увазе малапісьменнага чытача даволі папулярную брашурку—апісаньне арцелі „Бальшавік“.

Чытаючы гэту брашурку, міжвольна апынаешся ў калектыўнай сям'і „Бальшавіка“, бачыш яе рух, адчуваеш рытм яе працы, бачыш яе будынкі, рэчку і, здаецца, прымаеш удзел ува ўсім яе жыцьці.

Брашурка разьлічана на малапісьменнага чытача. І, бязумоўна, яна сябе поўнасьцю апраўдвае. Яе паступовасьць, прастата складу і мовы дае магчымасьць зразумець кожнаму хоць чуць пісьменнаму ўсё тое, што хацеў сказаць сам аўтар. Чытач, ня быўшы ні разу ў арцелі „Бальшавік“, можа ўявіць сабе яе арганізацыю і працу.

Па-другое, праз гэту невялічкую брашурку кожны чытач можа пазнаёміцца, як арганізоўвалася гэта арцель, якія яна на сваім шляху перажыла цяжкасьці, спакусы злачынцаў: папоў, ксяндзоў ды кулакоў, і як гэта ўсё перамагалася сябрамі арцелі.

Усе тыя факты, якія зазначаны ў брашурцы пра арцель „Бальшавік“, зьяўляюцца вельмі тыповымі, наогул, у разьвіцьці нашых калектыўных гаспадарак.

Тут добра паказана, з якімі сродкамі пачынала арцель жыць, якая была першапачатковая арганізацыя сяброў арцелі, якія былі хістаньні ў паасобных сяброў і іншае.

І разам з гэтым паказана, як гэта ўсё перамагалася і што зараз, за кароткі тэрмін (5 гадоў), арцель набыла, чаго дасягнула і яе склад.

Трэба сказаць, што вось такія брашуркі мастацка-апісальнага характару, як „Новая Зямля“, зьяўляюцца вельмі каштоўнымі ў сэнсе азнаямленьня малапісьменных сялянскіх масаў (ня кажучы ўжо наогул аб усіх чытачох) з разьвіцьцём і працай нашых калектыўных гаспадарак.

І гэты пачатак, які зрабіў Наркамасьветы, трэба падтрымаць і ў далейшым па магчымасьці рабіць выданьні вось такіх шырока масавых брашурак.

**С. Ж-ч.**

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*